**№ 19 (3862)**

11 сакавіка 2014 г.
Выдаецца з ліпеня 1995 г.
на беларускай
і рускай мовах

Выдавец: УП «Народная Воля».
Кошт — свабодны.

# Народная Воля

ГАЗЕТА — ЧЫТАЧЫ

**Да ўвагі!**

*Хто хоча набываць газету ў офісе рэдакцыі — чакаем!*

## *Не застацца ў II квартале без «Народнай Волі»!*

*Многія з Вас, шаноўныя чытачы, афармляюць падпіску на "Народную Волю" пакватальна, некаторыя нават памесячна.*

*Спадзяёмся на сяброўства ў красавіку—чэрвені. Каб не спынілася дастаўка газеты Вам на хатні адрас, завітайце, калі ласка, на пошту ці ў спецыялізаваны пункт "Белсаюздруку" да 27 сакавіка.*

*Дарэчы, магчыма, у II квартале ў некага з Вашых сваякоў, сяброў, саслужыўцаў дзень народзінаў. Лепшы падарунак — падпіска на "Народную Волю". І танна, і прыемна! Чытаючы кожны нумар газеты, Вас будуць узгадваць добрым словам!*

*Будзем разам!*

**Вы — з «Народнай Воляй», «Народная Воля» — з Вамі!**

ЭКАНОМІКА

# Мінус 80 мільёнаў долараў за месяц!

*Па выніках лютага,золатавалютныя рэзервы Рэспублікі Беларусь у вызначэнні Міжнароднага валютнага фонду скараціліся на 80 мільёнаў долараў і, паводле папярэдніх звестак, на 1 сакавіка склалі 6147,8 мільёна долараў у эквіваленце.*

Пра гэта паведамляе прэс-служба Нацыянальнага банка.

Нагадаем, што паступовае зніжэнне золатавалютных рэзерваў назіраецца з ліпеня 2012 года.

У нацыянальным вызначэнні аб'ём золатавалютных рэзерваў скараціўся на 81,9 мільёна долараў і на 1 сакавіка склаў 6724,5 мільёна долараў у эквіваленце.

*— На зніжэнне аб'ёму золатавалютных рэзерваў аказала ўплыў пагашэнне ўрадам і Нацбанкам знешніх і ўнутраных абавязацельстваў у замежнай валюце ў поўным аб'ёме*, — тлумачыць прэс-служба Нацбанка.

Падтрыманню аб'ёму золатавалютных рэзерваў у лютым бягучага года ў асноўным спрыяў рост цаны на золата на міжнародным рынку каштоўных металаў.



ПАД ГРАДУСАМ

## *На выхадных пахаладае*

*Тыдзень будзе цёплы і без дажджоў, але бліжэй да выхадных надвор'е сапсуецца.*

*"Большая частка тыдня пройдзе пад знакам антыцыклонаў. Краіна будзе знаходзіцца ў полі павышанага атмасфернага ціску. Чакаецца цёплае, спакойнае і без ападкаў надвор'е. У нядзелю пахаладае"*, — паведаміў начальнік службы гідраметэаралагічных прагнозаў Рэспубліканскага гідраметэацэнтра **Дзмітрый Рабаў.**

Уначы тэмпература паветра будзе вагацца ад плюс 3°С да мінус 3°С. Днём паветра прагрэецца ад плюс 5—7°С да 12—14°С у паўднёвых раёнах краіны.

*"На выхадных надвор'е пачне кардынальна мяняцца: з паўночнай Атлантыкі на Скандынаўскі паўвостраў перамесціцца актыўны цыклон, і праз нашу тэрыторыю будуць праходзіць атмасферныя франты, паўднёвыя вятры памяняюцца на паўночныя, узмоцняцца, і пахаладае"*, — расправёў Рабаў.

У суботу і нядзелю чакаюцца кароткачасовыя дажджы, месцамі мокры снег, туман. Мінімальная тэмпература паветра ноччу - ад мінус 2 да плюс 4°С, днём прагназуецца 2—8°С , па паўднёвых раёнах — да плюс 15°С.

ПАЗІЦЫЯ

## *Еўрапарламент лічыць палітвязнямі 11 беларускіх грамадзян*

*Гэта вынікае з адказу кіраўніка дэлегацыі Еўрапарламента па Беларусі **Філіпа Качмарэка** на запыт БелаПАН.*

Качмарэк таксама падкрэслівае неабходнасць вызвалення і рэабілітацыі палітвязняў. *"Без гэтага кроку адносіны паміж Еўрасаюзам і Беларуссю не палепшацца"*, — гаворыцца ў лісце, які цытуе БелаПАН.

Дыскусія пра колькасць палітвязняў у Беларусі абвастрылася пасля таго, як "Еўрарадыё" паведаміла пра нефармальную сустрэчу беларускіх праваабаронцаў з амбасадарам адной з краін ЕС. Паводле слоў праваабаронцы **Валянціна Стэфановіча,** дыпламат заявіў, што Еўрасаюз прызнае палітычнымі толькі шасцярых беларускіх зняволеных.

Беларускія ж праваабаронцы лічаць палітвязнямі 11 чалавек — **Мікалая Статкевіча, Алеся Бяляцкага, Мікалая Аўтуховіча, Эдуарда Лобава, Мікалая Дзядка, Ігара Аліневіча, Андрэя Гайдукова, Васіля Парфянкова, Уладзіміра Яроменка, Яўгена Васьковіча і Арцёма Пракапенку.** Пра Васьковіча і Пракапенку праваабаронцы кажуць, што ў іх дзеяннях угледжваюцца прыкметы правапарушэння, але суд несправядліва кваліфікаваў іх дзеянні і вынес празмернае пакаранне.

У прадстаўніцтве Еўрасаюза ў Мінску і ў амбасадзе ЗША не абвяшчаюць пайменныя спісы тых, каго лічаць палітвязнямі ў Беларусі. Аднак у нядаўна апублікаваным дакладзе Дзяржапартамента ЗША палітвязнямі названы Мікалай Статкевіч, Зміцер Дашкевіч (ужо вызвалены), Мікалай Аўтуховіч, Аляксандр Францкевіч (ужо вызвалены), Васіль Парфянкоў, Павел Севярынец (ужо вызвалены), Эдуард Лобаў, Алесь Бяляцкі і Уладзімір Яроменак (павінен выйсці на волю 11 сакавіка).

РЭБУС

## *Дык хто ж такая Алена Мацкела?*

*Памятны адрас і каштоўны падарунак ўручыў кіраўнік ГУУС Мінгарвыканкама генерал **Аляксандр Барсукоў** "невядомай" студэнтцы "невядомай" вышэйшай навучальнай установы.*

Нагадаем: у адзін дзень Алена Мацкела паведаміла міцыцыянеру, які дзяжурыў у метро, пра смс, якую выпадкова ўбачыла на экране незнаёмага мужчыны.

*"Я в метро. У меня бомба. Где взрывать? Какой код активации?"* — тэкст чужой эсэмэскі, які працытавалі журналісты kp.by, прымусіў дзяўчыну звярнуцца да міліцыянера.

Гэта здарылася 26 лютага. Метро зачынілі на некалькі гадзін. Дзякуй Богу, выбуховых прыстасаванняў не знайшлі. Аўтара дзіўнага паведамлення затрымалі, як кажуць, па гарачых слядах. Ён патлумачыў, што такім чынам... жартаваў са сваёй дзяўчынай.

Цяпер гэтага 35-гадовага чалавека адправілі на судова-псіхіятрычную экспертызу. Паведамлялася, што раней у Казахстане яго судзілі за незаконны абарот наркотыкаў, а ў Беларусі пазбавілі бацькоўскіх правоў.

Падчас узнагароджвання Алены Мацкела генерал Барсукоў падзякаваў ёй за актыўную грамадзянскую пазіцыю і сур'ёзны ўклад у забеспячэнне грамадскай бяспекі і правільныя дзеянні па прадухіленні злачынства. Пра гэта паведаміла ведамасная міліцэйская газета. Цікава, што газета не надрукавала здымак гераіні, у тым ліку і з цырымоніі ўручэння падзякі. І не паведаміла, хто яна такая: чым займаецца, працуе ці вучыцца? Адказ на гэтае пытанне "Народная Воля" паспрабавала атрымаць у прэс-службе ГУУС Мінгарвыканкама. Аднак і там яснасці не дадалі: маўляў, дзяўчына — студэнтка адной з вышэйшых навучальных устаноў. А дзе яна вучыцца — у БДУ ці, напрыклад, у Акадэміі МУС - не паведамілі. Маўляў, не маем права разгалошваць асабістыя дадзеныя дзяўчыны без яе дазволу на гэта.

Можа, хто з чытачоў "Народнай Волі" ведае дзяўчыну, якой міліцыя падзякавала за своеасаблівы ўчынак?

**Вера ВІР.**

ГРАМАДСКАЯ ДУМКА

# Каму верыць?

*Чаму так адрозніваюцца лічбы апытанняў незалежных і праўладных сацыёлагаў?*

Чулі? Кіраўніку Беларусі Аляксандру Лукашэнку давяраюць 79% насельніцтва. Такі вынік апошняга сацыялагічнага апытання апублікаваў Інфармацыйна-аналітычны цэнтр (ІАЦ) пры Адміністрацыі прэзідэнта Беларусі. Згодна з агучанымі лічбамі, ураду і парламенту краіны давяраюць у сярэднім 40% жыхароў Беларусі, а апазіцыйным партыям — толькі 3% рэспандэнтаў.

Калі верыць гэтаму даследаванню, 74% апытаных сказалі, што жыццё іх цалкам задавальняе. 71,5% — упэўнена глядзяць у заўтрашні дзень. А трэць з апытаных нават быццам сказалі, што за апошнія тры месяцы іх матэрыяльнае становішча палепшылася.

Што да грамадска-палітычнай сітуацыі, то хочаце верце, хочаце не, 81% рэспандэнтаў назвалі яе стабільнай.

Даследчыкі сцвярджаюць, што запытвалі таксама пра праблемы, якія хвалююць нашых суайчыннікаў. Высветлілася, што больш за ўсё іх непакояць рост коштаў на тавары і распаўсюджванне п'янства і наркаманіі.

І можна было б толькі дзівіцца амаль поўнай аднадушнасці беларусаў наконт дзеючай улады, калі б не іншыя лічбы.

Літаральна тры месяцы таму Незалежны інстытут сацыяльна-эканамічных і палітычных даследаванняў (зарэгістраваны ў Літве) правёў сваё апытанне. І яго вынікі па ўсіх пазіцыях абвяргаюць высновы даследчыкаў ІАЦ.

Тры месяцы таму толькі 37,7% рэспандэнтаў прызналіся, што давяраюць кіраўніку краіны. Пры гэтым практычна ўсе важныя заявы Аляксандра Лукашэнкі адносна сацыяльна-эканамічнага становішча ў краіне выклікалі нязгоду ў большасці насельніцтва. Напрыклад, 59% лічаць, што вялікая частка плана па мадэрнізацыі прадпрыемстваў у 2013 годзе фактычна правалена. 61,3% рэспандэнтаў не пагадзіліся з заклікам кіраўніка краіны "не бегаць з раніцы да вечара па абменных пунктах" і не скупляць валюту, каб не аслабіць нацыянальную валюту. 64,7% не падтрымалі прапанову аб увядзенні пошліны ў 100 долараў з кожнага, хто выязджае за мяжу. 60% не вераць, што ў будаўніцтва Палаца Незалежнасці ў Мінску нібыта не ўкладзена "ніводнага бюджэтнага рубля". Увядзенне падатку на беспрацоўных і дзяржпошліны за выдачу дазволу на допуск транспартнага сродку да ўдзелу ў дарожным руху не ўхвалілі 60,5%.

Дык каму ж нам верыць?

Заснавальнік Незалежнага інстытута сацыяльна-эканамічных і палітычных даследаванняў (НІСЭПД) **Алег Манаеў** не дапускае думкі, што ніякага даследавання супрацоўнікі ІАЦ не праводзілі, а самі напісалі тыя лічбы, якія палічылі правільнымі. Навуковец толькі кажа, што прычына палягае ў тэхналогіі правядзення апытання.

— Сама тэхналогія правядзення апытання розная. Як было ў савецкія часы? Проста зайсці ў кватэру да грамадзяніна ці спыніць яго на вуліцы было магчыма, але гэта не дало б ніякага выніку, бо выклікалі б міліцыянера ці парторга і г.д. Насамрэч тады ўсё рабілася па ўзгадненні. Як правіла, гэтым займаліся партыйныя органы. Зверху званілі на прадпрыемства, даследчыкі прыходзілі да кіраўніцтва з паперкай і там у нейкім "ленінскім пакоі" ўсе неабходныя паперы запаўняліся. Па шмат якіх пытаннях, канешне, вынікі былі зусім не такія, якімі яны маглі б быць пры аб'ектыўным даследаванні. У мяне цяпер няма ніякай інфармацыі наконт ІАЦ, але я ведаю, што там працуюць прыкладна па гэткай жа схеме.

Калі нехта думае, што лічбы былі іншыя, а нейкі там дырэктар прадпрыемства ўзяў і сваёй рукой нешта выправіў, то гэта малаверагодна. Проста сама гэтая схема не адпавядае крытэрыям сацыялогіі і этыкі. Так што важна, як рабілася апытанне: па тэлефоне, на працы ці па месцы жыхарства. Упэўнены, што ў дадзеным выпадку размова ідзе пра апытанне на працы. А цяпер уявіце, што вам на працы, звязанай з дзяржструктурай, сказалі, што прыйшлі даследчыкі з цэнтра пры прэзідэнце і трэба адказаць на іхнія пытанні. Ясна, што адказы будуць не адэкватныя рэчаіснасці. Адсюль такая розніца ў лічбах. Не думаю, што за тры месяцы так істотна змяніліся меркаванні людзей.

Чаму менавіта цяпер спатрэбілася такое даследаванне? Хутчэй за ўсё сітуацыя ва Украіне прымусіла нервавацца. З'явілася жаданне паказаць, што ў нас усё стабільна.

**Любоў ЛУНЁВА.**

# Што там, ва Украіне?

## Неспакойна не толькі на Чарнаморскім узбярэжжы

Увесь свет спрабуе дапамагчы Украіне абараніцца ад "брацкай дапамогі" Расіі. Увод расійскіх войскаў у Крым і намер правесці рэферэндум аб уваходжанні паўвострава ў склад Расійскай Федэрацыі афіцыйна падтрымалі толькі дзве краіны — Сірыя і Куба. Накіроўваць сваіх назіральнікаў на крымскі рэферэндум, які павінен адбыцца ў гэтую нядзелю, не збіраюцца нават краіны СНД.

Але неспакойна не толькі на Чарнаморскім узбярэжжы. Так, у панядзелак сцяг над абласной адміністрацыяй Луганска мянялі тройчы — украінскі, расійскі, зноў украінскі... Амаль такая ж сітуацыя ў Харкаве і Данецку.



## *Выкрылі расійскіх спецназаўцаў*

Украінскія марпехі затрымалі на тэрыторыі сваёй вайсковай часці ў Феадосіі расійскіх спецназаўцаў, сярод якіх быў адзін афіцэр. Пазней украінскія ваеннаслужачыя перадалі іх фатаграфіі, а таксама фатаграфіі іх дакументаў як доказ таго знаходжання расійскіх салдат на тэрыторыі Украіны, што раней адмаўлялі прэзідэнт Расіі Уладзімір Пуцін, міністр абароны РФ Сяргей Шайгу і кіраўнік МЗС Сяргей Лаўроў.

***(Працяг тэмы — на стар.5.)***

ВЫБАРЫ: ХРОНІКА

## *Чаму знікаюць кандыдаты?*

19 зарэгістраваных кандыдатаў ужо пакінулі перадвыбарную гонку за дэпутацкае месца ў Брэсцкім гарсавеце. Такія лічбы былі агучаны на пасяджэнні гарадской тэрытарыяльнай выбарчай камісіі.

На думку незалежнага назіральніка **Уладзіміра Вялічкіна,** усе 19 экс-кандыдатаў першапачаткова не хацелі ўдзельнічаць у выбарах, а цяпер шукаюць розныя падставы для сыходу. *"Яны тлумачаць нежаданне ўдзельнічаць у выбарах сямейнымі абставінамі, некаторыя — занятасцю на працы, хтосьці — зменай месца жыхарства. Але яшчэ многія з іх тлумачаць сваё рашэнне зняцца з перадвыбарнай гонкі тым, што калі яны ішлі на выбары, то думалі, што будзе "як заўсёды". Аказалася, што трэба рыхтаваць выступленне па радыё, трэба адкрываць рахункі для вырабу агітацыйнай прадукцыі, а гэта — вялікі кавалак працы"*, — расказаў Уладзімір Вялічкін.

На сённяшні дзень за месца ў Брэсцкім гарсавеце працягваюць змагацца 102 чалавекі. Уладзімір Вялічкін мяркуе, што да пачатку выбараў некаторыя з 40 акруг Брэста могуць стаць наогул безальтэрнатыўнымі, бо мясцовая дэмакратычная супольнасць не здолела ўсюды вылучыць сваіх прадстаўнікоў.

## *Новы старт*

Звольнены з пасады начальніка Упраўлення ўнутраных спраў Гродзенскага аблвыканкама **Уладзімір Сычэўскі** застаецца кандыдатам у дэпутаты Гродзенскага гарадскога Савета.

Цікава, што яго сапернікамі па акрузе з'яўляюцца старшыня гродзенскай рады Партыі БНФ **Вадзім Саранчукоў**, а таксама прадстаўнік Аб'яднанай грамадзянскай партыі **Наталля Слуцкая**. Так што ў Гродне лічаць вельмі верагодным, што адстаўка Сычэўскага была не скандалам, а "перадыслакацыяй", і што менавіта ён, паводле планаў улады, павінен узначаліць новы гарадскі савет.

## *Сумнае відовішча*

Сёлетнія выбары ў мясцовыя Саветы пакуль праходзяць без... выбаршчыкаў. Вось што расказаў пра выбарчую кампанію ў Оршы кандыдат **Мікалай Дзямідаў,** прадстаўнік Партыі левых "Справядлівы свет":

— Раней былі нейкія спрэчкі на пікетах, а цяпер толькі выйшаў дырэктар Дома культуры чыгуначнікаў, паглядзеў, запытаўся, ці законна мы тут стаім. Сказаў, што ў ягонай установе ідзе нейкая імпрэза і мы тут недарэчы, паківаў галавой ды пайшоў. Яшчэ нейкія дзве спадарыні падбеглі, заявілі, што мы тут не маем права стаяць. Чаму? Бо ім так падаецца. Ну, і міліцыянты нешта адсочвалі з машыны, схаваўшыся за дрэвам.

Вось такія выбары.

## *Цэнзуры ў Беларусі няма?*

Баранавіцкая дзяржаўная газета "Наш край" адмовілася друкаваць перадвыбарную праграму кандыдата ў дэпутаты абласнога савета **Мікалая Чарнавуса.**

Рэдактар афіцыйнай газеты дамагаўся, каб Мікалай Чарнавус яе змяніў, але на гэта кандыдат у дэпутаты не пагадзіўся. Цяпер, паводле звестак Мікалая Чарнавуса, яго праграму адправілі ў Цэнтральную выбарчую камісію. Пра гэта яму паведаміла старшыня акруговай выбарчай камісіі Баранавіцкай Заходняй акругі №21 **Ларыса Антонава.**

— У сваёй праграме я адкрыта выступіў супраць кантрактнай сістэмы, за прамыя выбары мэраў гарадоў, за тое, каб ва ўчастковых камісіях былі прадстаўнікі ўсіх кандыдатаў у дэпутаты. Адначасова я паведаміў, што ў Баранавіцкім гарсавеце засядаюць толькі дырэктары дзяржаўных і прыватных прадпрыемстваў, што, напрыклад, зарплата дырэктара завода жалезабетонных канструкцый складае сёння дзясяткі мільёнаў рублёў, а рабочых — у 20 разоў менш. Таму я заклікаў грамадзян горада не галасаваць за прадстаўнікоў дырэктарскага корпусу, а галасаваць за тых, хто вядзе адкрытую барацьбу з карупцыяй, — паведаміў Мікалай Чарнавус.

Па словах Мікалая Чарнавуса, яму пагражаюць прыцягнуць да крымінальнай адказнасці за сем пунктаў перадвыбарнай праграмы. Але кандыдат гатовы адказаць за кожны пункт абвінавачвання.

РЭГІЁНЫ

## Жыццё са стралянінай і пагонямі

*Супрацоўніку Ушацкага РАУС давялося адстрэльвацца ад п'яных хуліганаў.*

Канфлікт пачаўся з экстраннага паведамлення аб тым, што па вёсцы Кублічы ездзіць п'яны кіроўца на "Аудзі". Праз гадзіну экіпаж ДАІ, у які ўваходзіў участковы інспектар міліцыі раённага аддзела ўнтраных спраў, спыніў аўто з парушальнікам. Кіроўца і яго пасажыр здавацца не збіраліся, вялі сябе нахабна і пачалі пагражаць фізічнай расправай праваахоўнікам. Нават пасля шматлікіх просьбаў мужчыны не спыніліся і пачалі валіць участковага інспектара на зямлю. Міліцыянеру не заставалася нічога іншага, як пачаць страляць. Папераджальныя стрэлы не ўразілі парушальнікаў, і праваахоўніку прыйшлося страляць на паражэнне.

Раненне, якое атрымаў адзін з хуліганаў, не пагражае яго жыццю. Па факце нападу ўзбуджана крымінальная справа.

## У гаспадарцы спатрэбіцца...

*У Глыбокім хочуць усталяваць плаваючы фантан за 10 тысяч долараў.*

Жыллёва-камунальная гаспадарка Глыбоцкага раёна аб'явіла тэндар на закупку плаваючага фантана MAXI II і двух камплектаў святлодыёдных свяцілень да яго. Прыблзная цана такога ўпрыгожвання — 10 тысяч долараў.

Новы фантан плануецца ўсталяваць у Глыбокім на возеры Кагальнае, якое з'яўляецца адным з самых забруджаных у Беларусі.

## Гэта таго не варта

*Рыбак з Рагачова загінуў, праваліўшыся пад лёд.*

Аб здарэнні ў МНС паведаміў прахожы, які бачыў, што ў 50 метрах ад берага пад лёд праваліўся чалавек і пайшоў пад ваду. Дапамагчы 52-гадоваму мясцоваму жыхару не ўдалося. Цела мужчыны знайшлі пасля правядзення пошукавых работ. Па словах родных, напярэдадні ён адправіўся на рыбалку.

ПРОГНОЗЫ

## Спад российской экономики негативно скажется и на белорусской

По прогнозу Международного рейтингового агентства Moody's, неблагоприятная экономическая ситуация в России негативно повлияет на работу белорусских предприятий в ближайшие 12—18 месяцев, а рост ВВП в 2014 году составит 2,5% (правительство ожидает 3,3%).

Специалисты агентства считают, что спад в российской экономике отрицательно влияет на кредитоспособность многих корпоративных заемщиков Беларуси, особенно учитывая тот факт, что на долю России приходится 42% белорусского экспорта. Поэтому аналитики ожидают рост проблемных кредитов в белорусской банковской системе.

Так, доля проблемных кредитов в кредитном портфеле белорусских банков, по данным Moody's, в ближайшие год-полтора может возрасти до 6—7%, тогда как в ноябре 2013 года она составляла около 5%.

*"Снижающиеся золотовалютные резервы ограничивают способность правительства предоставлять банкам поддержку в иностранной валюте. В то же время поддержка ликвидности банков в национальной валюте за счет смягчения денежно-кредитной политики может привести к усилению инфляционного давления на экономику",* — уверены эксперты.

Однако, подчеркивают в агентстве, учитывая низкие золотовалютные резервы Беларуси по отношению к платежам по импорту, высокий внешний долг, любые негативные события в части предоставления внешнего финансирования или энергетических субсидий Россией вызовут "значительный шок" для платежного баланса.

В результате сложные условия привлечения кредитов вынудят белорусское правительство ограничить объемы ресурсов, направляемых на стимулирование экономики, констатируют специалисты.

З ВОКА НА ВОКА

# ...З ног на галаву

Сяргея Скрабца лічыў сур'ёзным чалавекам. І не хацелася б расчароўвацца. Але...

На мінулым тыдні выпадкова сустрэўся з ім у цэнтры Мінска. Кароткая, можна сказаць, на хаду размова. Ён выпальвае: *"Вазьмі карэспандэнтам!"* Я жартую: *"А што, у нас беспрацоўе? Здаецца, толькі гультаі не могуць знайсці работу..."* І, каб прыдаць сваім словам сур'ёзнасць, экспромтам прывёў некалькі канкрэтных фактаў.

Заўважыў, спадару Скрабцу стала ніякавата ад маіх шчырых разважанняў. Але ж і контраргументаў не пачуў.

І вось раптам чытаю яго блог на сайце "Беларускі партызан" (цытую без перакладу на нашу мову): *"Недавно попросил главного редактора "Народной Воли" Иосифа Середича взять меня на работу. Невозможно нигде в Беларуси устроиться на работу, решил переквалифицироваться в журналиста или помощника журналиста..."* Што ж, бяда, калі чалавек не можа ўладкавацца на працу. Толькі, спадар Сяргей, наколькі я ведаю, па асноўнай прафесіі ты тэхнар. Журналістам стаць, тым больш журналістам "Народнай Волі" з яе надзвычай высокімі патрабаваннямі, — зусім не тое, што змяніць спецыяльнасць інжынера на абавязкі чорнарабочага. І адначасова заўважу: не тыя ў нас фінансавыя і тэхнічныя магчымасці, каб у журналістаў былі яшчэ памочнікі. Кожны творчы супрацоўнік нашай рэдакцыі загружаны так, што дыхнуць няма калі. Не кажучы пра найвышэйшую адказнасць!

І ўсё ж, дружа, я ўсёй душой за тое, каб ты як мага хутчэй знайшоў работу! На сваім вяку я перажыў нямала няўзгод, не раз на ўласнай шкуры адчуваў несправядлівасць, а таму — супраць любой дыскрымінацыі людзей!

Якіх бы палітычных поглядаў ні прытрымліваўся С.Скрабец, ён, падкрэсліваю, мае законнае права на працу. І ў той жа час я не згодны, калі мне нехта кажа, што *"невозможно нигде в Беларуси устроиться на работу".* Менавіта такое сумніўнае сцвярджэнне Сяргея і падштурхнула мяне да дыскусіі з ім.

Большасць чытачоў "Народнай Волі", мабыць, ведаюць біяграфію спадара Скрабца. Ён з перыферыйнай начальніцкай сям'і. Кар'ера яго мела добры пачатак. Нават дэпутатам парламента быў. Але не абышлі яго бокам і цяжкія выпрабаванні, асабліва калі трапіў у турму. Вось і з працаўладкаваннем праблема.

Ці ёсць выйсце? На мой погляд, ёсць. У свой час, спадар Сяргей, я таксама апынуўся за бортам дзяржаўнай службы. І, як бачыш, не прапаў, хоць гора давялося глынуць напоўніцу. Што ўратавала? Адразу прыняў цвёрдае рашэнне: не скуголіць перад уладамі, не поўзаць на каленях. І, павер, не ўдалося б стварыць, а затым утрымаць "Народную Волю" — заняўся б нечым іншым. **Сваім.** Дошкі пілаваў бы, агуркі вырошчваў, курэй разводзіў, але не прапаў бы без кавалка хлеба. Таму, даражэнькі, прабач, але я сапраўды цябе не разумею... Ёсць рукі, ногі, ёсць галава, а ты не можаш знайсці працу? Што, немагчыма вярнуцца ва ўладныя структуры? Напалоханыя працадаўцы адмаўляюць у бізнес-пасадах? Нерэальна ўладкавацца нават на другія-трэція ролі? Ну і плюнь ты на ўсё гэта! Дзякуй Богу, сёння можна лёгка зарэгістравацца іпэшнікам. Галоўнае толькі, каб твая прадукцыя, твае паслугі, твае здольнасці былі запатрабаваны на рынку. І калі справа наладзіцца — будзеш з дастаткам.

Колькі людзей пайшло менавіта па такім шляху! Вунь Васіль Міхайлавіч Шлындзікаў, якога ты добра ведаеш... Быў і партыйным функцыянерам, і генеральным дырэктарам аб'яднання "Амкадор", і дэпутатам парламента... З-за чэснай, прынцыповай пазіцыі згубіў месца ў эшалонах улады, але не згубіўся як асоба, як талковы работнік. Стварыў сваю справу і вось ужо каторы год цягне лямку прадпрымальніка. Зарабляе і на хлеб, і да хлеба. А што тычыцца палітычных поглядаў, то ён іх не памяняў.

Я ўпэўнены, знойдзе сваё працоўнае месца і Сяргей Скрабец. А таму не разумею, чаму ён у штыкі ўспрыняў мае словы (да такой высновы прыходзіш, калі чытаеш яго блог на "Беларускім партызане"). Крыўда ды яшчэ з апломбам! Элементарная логіка падмяняецца эмацыйнымі ўсплёскамі! Чорнае выдаецца за белае, многае ставіцца з ног на галаву...

Не разумею, Сяргей, навошта табе спатрэбілася перакручваць факт, які падчас нашай сустрэчы я спецыяльна прывёў для таго, каб развеяць твой песімізм адносна "невозможности нигде в Беларуси устроиться на работу". Навошта прыпісваць мне тое, чаго я наогул не гаварыў. Калі ты вырашыў проста-напраста прапіярыцца, то, даражэнькі, дазволь усё ж нагадаць чытачам хаця б такі фрагмент нашай размовы. Я сапраўды сказаў, што сёння толькі лайдакі не могуць знайсці сабе работу. Сказаў, маючы на ўвазе не вузкі аспект праблемы, а самы шырокі. Так, згодны, многім рэпрэсіраваным апазіцыянерам цяжка ўладкавацца на працу ў адпаведнасці з іх прафесіяй, учарашнімі высокімі пасадамі. І тут дыскрымінацыя з боку ўлад выклікае самае глыбокае абурэнне. Але ж не паміраць нам у чаканні тых часоў, калі ў краіне зменяцца правілы гульні?! Есці хочацца кожны дзень, і трэба думаць, як зарабіць нейкую капейчыну тут, на радзіме, а не там, на чужыне, куды ўжо скіраваліся многія беларусы. Адзін пераканаўчы прыклад я прывёў, а магу прывесці дзясяткі, сотні... Пагавары, Сяргей, з людзьмі, якія даўно не чакаюць ад улад нічога добрага, а вырашаюць свой лёс самастойна, адшукваючы самыя розныя варыянты.

У суботу, я сказаў табе падчас сустрэчы, у вёску, у якой я жыву ўжо амаль 20 гадоў, прыехалі двое мужчын з горада. На ўласнай машыне, з інструментамі. Прапанавалі паслугі па абрэзцы фруктовых дрэў. Чарга з мясцовага люду стварылася такая, што мой сад у той дзень пачысцілі толькі напалову — сцямнела, не хапіла часу. Я прыкінуў: мае суседзі і я разам заплацілі рабочым у эквіваленце не менш за 300 долараў. Падзяліце на дваіх — чым дрэнны заробак? І не трэба, спадар Сяргей, уводзіць наведвальнікаў сайта "Беларускі партызан" у зман, што быццам я казаў табе — *"кругом куча возможностей заработать минимум 350 долларов за день".* Я прывёў канкрэтны факт, ён і без перабольшання ўнушальны. А падобных фактаў — колькі хочаш! Скажы, ты даўно запрашаў у кватэру ці на дачу прафесійнага электрыка? А муляра? Тынкоўшчыка? Сантэхніка? Менш як за 50 долараў у дзень яны працаваць не будуць.

*"Черт возьми, а ведь этого не знают сотни тысяч гастарбайтеров, уехавших на заработки в Россию, тысячи репрессированных по политическим мотивам, которые не могут устроиться на работу потому, что кто-то считает их неблагонадежными, а кто-то просто боится их как чумных",* — іранізуеш ты ў інтэрнэт-блогу, хоць, вядома, ведаеш народную прымаўку: "Рыба шукае дзе глыбей, а чалавек — дзе лепш". Аднаму дастаткова мець у дзень 50 долараў, другому давай 100, трэцяму — 150. Хто едзе ў Маскву працаваць, а хто і тут, на месцы, задавальняецца заробкамі.

Я ні і ў якім выпадку не хачу сказаць, што наогул няма праблемы. Ёсць. Але ж не трэба спекуляваць. Можаш і хочаш паехаць за "доўгім рублём" у тую ж Расію — едзь. Толькі не памірай з голаду. Можаш няблага ўладкавацца тут, у Беларусі, і набліжаць перамены ў бок лепшага — набліжай. Толькі не пустой балбатнёй, а канкрэтнымі справамі.

Што і казаць, я сапраўды не разумею людзей, якія гадамі швэндаюцца, нідзе не працуючы. Асабліва тых, якія пры гэтым уяўляюць сябе палітычнымі стратэгамі.

Лічу, Сяргей, не да месца сказаў ты і пра тысячы рэпрэсаваных па палітычных матывах... Пра гэта, шаноўны, у нас наогул гаворкі не было. Хоць яшчэ раз паўтараю: **я катэгарычна супраць любой дыскрымінацыі!**

Магчыма, я не звярнуў бы ўвагі на "дзіцячую" крыўду спадара Скрабца і не ўзяўся б за пяро, калі б у сваім блогу ён не выйшаў за межы прыстойнасці і, як мне здалося, не паставіў перад сабой адну брыдкую мэту: пасварыць мяне з шэрагам іншых апазіцыянераў. Ён напісаў: *"Как у нас выполняют и перевыполняют пожелания диктатора известно всем. Но я и представить себе не мог, что этого не знает Середич, обозвавший лайдаками всех репрессированных за политику людей, имеющих мужество бороться с существующим режимом. Нравоучения Середича сводились к тому, что все оппозиционеры — лайдаки, не хотят работать и вызывают презрение у белорусского народа...*

*Спасибо... за наглядный урок от всех лайдаков!*

*От Козулина, Климова, Дашкевича, Санникова. Поблагодарят вас за урок жизни и будущие лайдаки, когда выйдут на свободу и попытаются начать жизнь в Беларуси с нуля — Статкевич, Беляцкий, Автухович...".*

Вось дык замах! Я — пра тое, што спадар Скрабец можа і павінен знайсці сабе работу, не разлічваючы на падачку ўлад, а ён — пра тое, што быццам я абазваў усіх рэпрэсіраваных апазіцыянераў лайдакамі.

Спадар Сяргей, скажы шчыра: хоць адно прыведзенае табой прозвішча ўзгадвалася мною падчас нашай сустрэчы? Не ўзгадвалася! Такім чынам, не я, а ты ганьбіш *"усіх рэпрэсаваных палытыкаў".* Прадмет нашай дыскусіі палягаў і палягае ў зусім іншай плоскасці — можна ў нашай краіне знайсці апазіцыянеру работу, каб мець кавалак хлеба, ці не?

Ёсць вялікае жаданне апраўдаць сваю бездапаможнасць? Калі так, то ў нейкай ступені майго апанента зразумець можна. Але ж не трэба сутыкаць мяне лоб у лоб з вядомымі і паважанымі людзьмі. Гэта ўжо, спадар Скрабец, не па-мужчынску.



**Іосіф СЯРЭДЗІЧ, галоўны рэдактар газеты "Народная Воля".**

АФІЦЫЙНА

## *Сямён ШАПІРА:* «Патуранняў не будзе ні для кога»

*Зямельныя ўчасткі ў Мінскім раёне будуць перадавацца па інвестыцыйных дагаворах толькі праз аўкцыёны. Пра гэта заявіў старшыня Мінаблвыканкама* ***Сямён Шапіра.***

*"На кожны ўчастак у Мінскім раёне прэтэндуюць некалькі чалавек, у раённыя цэнтры бізнес ідзе не так актыўна,* — адзначыў чыноўнік. — *Але выдзяляць зямлю ў Мінскім раёне таму, хто змог трапіць на прыём да губернатара, няправільна. Ні адзін участак у Мінскім раёне не будзе аддадзены проста так".*

Старшыня Мінаблвыканкама асобна падкрэсліў, што гэтае рашэнне будзе тычыцца ўсіх. *"Усё павінна быць сумленна, празрыста і адкрыта. Усе павінны знаходзіцца ў роўных умовах",* — сказаў ён.

Сямён Шапіра таксама прапанаваў прапісваць у інвестыцыйных дагаворах штрафныя санкцыі. *"Бяруць зямлю для будаўніцтва, напрыклад, аўтазапраўкі і дзіцячага садка. Запраўку будуюць, а дзіцячы садок — не. Потым яны гатовы запраўку пакінуць, астатнюю зямлю аддаць. Усё будзе па законе і для ўсіх аднолькава. Не пабудаваў — зямля будзе канфіскавана. Патуранняў не будзе ні для кога",* — адзначыў "губернатар".

МАРШРУТЫ

## З Мінска ў Гомель — за 15 еўра

*"Белавія" ізноў адкрые ўнутрырэспубліканскі рэйс Мінск—Гомель.*

Нагадаем, што раней такі рэйс быў, але тры гады таму яго закрылі. Тады чыноўнікі тлумачылі сваё рашэнне высокай канкурэнцыяй з боку аўтамабільнага і пасажырскага транспарту. Але ў ліпені-жніўні два разы на тыдзень "Белавія" будзе ажыццяўляць рэйс Мінск—Гомель.

Пакуль дакладны кошт квітка невядомы, называюць толькі арыенціровачную лічбу — каля 15 еўра.

Акрамя таго, будуць адпраўляцца двухбаковыя рэйсы Мінск—Гомель—Калінінград (раней — Мінск—Калінінград—Гомель—Калінінград—Мінск).

Рэйс Мінск—Гомель стане першым у краіне маршрутам унутрырэспубліканскіх авіязносін.

Палёты будуць выконвацца на самалётах CRJ-20.

КВАДРАТНЫЯ МЕТРЫ

# Сквапнасць трымае высокія кошты на жыллё?

*Нягледзячы на тое, што рыэлтары адзначаюць спад попыту на арэнднае жыллё, не ўсе ўласнікі гатовы знізіць цану. Чаму?*

### Каго жаба душыць?

Згодна з заявамі сталічных чыноўнікаў, у бліжэйшыя гады аб'ём жыллёвага будаўніцтва ў Мінску будзе толькі скарачацца. Гэтыя абставіны ў вачах спажыўцоў робяць інвестыцыі ў нерухомасць звышнадзейнымі. Але ўжо сёння інтарэсы арэндадаўцаў і іх патэнцыйных кліентаў кардынальна разыходзяцца.

*"Калі прааналізаваць прыватныя аб'явы ад уладальнікаў кватэр і тых, хто хоча зняць жыллё, выяўляецца значная дыспрапорцыя,* — каментуе сітуацыю рыэлтар са стажам **Вікторыя**. — *Двухпакаёўку з больш-менш прыстойным рамонтам вам гатовы здаць за 500—900 долараў. Але людзі рэальна могуць даваць не больш за 400—450 умоўных адзінак. Арэндадаўцы, відавочна, яшчэ не зразумелі, што мінулагодняя хваля ажыятажнага попыту на здымныя кватэры мінула".*

Варта адзначыць, што ў рэгіёнах павышаныя кошты на арэнду жылля не ўтрымаліся. Так рынак рэагуе на попыт, фінансавыя здольнасці беларусаў. З агульнай карціны выпадае толькі сталічны прыгарад. Тут таксама спадзяюцца на новы пад'ём і не зніжаюць кошты на арэнду.

### Лепш не трэба

Побач з тымі, хто марыць вырашыць усе свае фінансавыя праблемы за кошт здачы жылля, існуюць людзі з зусім іншымі поглядамі. З кожным годам расце колькасць мінчан, якім прасцей закансерваваць уласную кватэру да лепшых часоў, чым здаць яе незнаёмым людзям.

*"Мы з бацькамі доўга думалі, здаваць бабуліну кватэру пасля яе смерці ці не,* — распавёў "Народнай Волі" мінчанін **Мікіта Гарэцкі**. — *Зрэшты, вырашылі пакінуць усё так як ёсць. Калі з'явіцца патрэба, то мы зможам яе прадаць, але зараз здаваць яе проста нявыгадна. Каб прасіць за арэнду нармальныя грошы, трэба будзе ўкладвацца ў рамонт, губляць час і нервы. А здаваць так, як ёсць, проста непрыстойна... Хіба што студэнтам, але пасля іх ніякіх грошай не захочаш".*

Беларускі сегмент сусветнага сеціва поўніцца расказамі незадаволеных арэндадаўцаў. Адны здавалі кватэру маладой сям'і, а насамрэч далі прытулак мясцоваму філіялу дома распусты. Іншыя засталіся без мэблі і бытавой тэхнікі — усё знікла разам з несумленнымі жыхарамі. А зусім нядаўна з'явілася паведамленне ад мінскіх абаронцаў жывёл. Ім таксама прыйшлося разбірацца з несумленным арандатарам. Той збег, не заплаціўшы за кватэру, і пакінуў гаспадарам частку сваіх рэчаў і белага ката.

### Рынак у чаканні

Эксперты адзначаюць, што адносны спакой на рынку нерухомасці затрымаецца яшчэ на некаторы час. Кошты, якія раслі шалёнымі тэмпамі да канца 2013 года, здаецца, застылі. Асабліва гэта прыкметна ў сталіцы, якая традыцыйна застаецца самым апетытным кавалачкам для навасёлаў. Рыэлтары нават гатовы анансаваць зніжэнне коштаў. Праўда, пакуль толькі на набыццё кватэр у навабудах.

*"Першасны рынак жылля Мінска, як ніякі іншы, пацярпеў ад росту ставак крэдытавання,* — адзначыла кіраўнік кампаніі "Твая сталіца. Новостройцентр" **Наталля Пічуха** на прэзентацыі "Жылая і камерцыйная нерухомасць: вынікі-2013, прагнозы-2014". — *Аднак узровень попыту ў другой палове 2013 года заставаўся стабільным. у цяперашні час рынак знаходзіцца ў стане чакання і істотных цэнавых ваганняў не прадбачыцца, паколькі асноўным стрымліваючым фактарам росту коштаў па-ранейшаму застаецца высокі кошт крэдытных рэсурсаў для насельніцтва".*

Пры гэтым эксперт адзначае, што ў выпадку зніжэння кошту крэдытаў беларусы зноў пачнуць актыўна будаваць жыллё. Нашы грамадзяне вераць у стабільнасць нерухомасці, да таго ж здаваць жыллё дагэтуль выгадна.

ТЫМ ЧАСАМ

## У Мінску здалі першы арэндны дом для чаргавікоў

Прэтэндаваць на арэндныя метры могуць толькі тыя, хто стаіць у чарзе на паляпшэнне жыллёвых умоў. Праўда, засяліўшыся ў новы дом у Чыжоўцы, чаргавік губляе свае права на льготнае будаўніцтва. Варта адзначыць, што месячная плата за пражыванне ў новым доме будзе вагацца ад 76 да 173 долараў ЗША ў месяц (у залежнасці ад метражу).

**Марыя БУДНІК.**

ДИАГНОЗ

# Бухгалтеры воровали у врачей?

***Три работницы Витебского областного клинического центра психиатрии и наркологии подозреваются в хищении 1,5 миллиарда рублей.***



Скандал разразился в медицинском учреждении, где работает известный не только в Витебске, но и за его пределами доктор **Игорь Постнов**. Он не исключает, что поводом для проверки центра сотрудниками Управления по борьбе с организованной преступностью и коррупцией по Витебской области могли стать в том числе и его публичные заявления о нищенских зарплатах в медучреждении.

Постнов из тех людей, которые не дают спокойно жить начальникам всех уровней. В прошлом году он рассказывал со страниц "Народной Воли" о том, каким гонениям подвергался за то, что ставил перед руководителями Витебска конкретные вопросы, главный из которых — почему затягивается строительство и реконструкция ряда медучреждений города, от чего страдают в первую очередь пациенты? Врач дважды лишался работы, но его восстанавливали — правда, на другие должности, он соглашался на меньшую зарплату. Его вынуждали пройти психиатрическое освидетельствование, а в прошлом году принудительно "лечили" в клинике, где он работал. Вернуться в строй помогли правозащитники и журналисты, стараниями которых о вопиющем случае заточения доктора в психбольницу узнала вся страна.

Сегодня Игорь Постнов снова работает в Витебском областном клиническом центре психиатрии и наркологии, только в другой должности. И продолжает публично говорить о проблемах белорусской медицины.

— В январе прочитал в интернете сообщение о зарплатах в Витебской областной клинической больнице, — рассказывает Игорь Постнов. — Со слов начальника планово-экономического отдела клиники Раисы Липской, в 2013 году средняя зарплата врачей в этом медучреждении составила 7.750.500 рублей, медсестер — 4.095.273 рубля, санитарок — 2.355.693 рубля . Я же в своей клинике не зарабатывал больше 3 миллионов. Если быть совсем точным, то имел практически такую же зарплату, как санитарка в областной больнице. Но у меня врачебный стаж более 20 лет, работал на ставку. Ну как такое может быть? Я взял и разместил в интернете свой расчетный листок за октябрь 2013 года — со всеми доплатами к окладу в 1 миллион 106 тысяч, мне было начислено 2,5 миллиона.

Кто знает, возможно, УБОПиК по Витебской области и заинтересовала эта информация. Не исключаю, что могли быть и другие звоночки из нашего медучреждения. Потому что все знают: в финансирование медучреждения на год закладывается бюджет по максимуму, с учетом заработной платы всех сотрудников. Потом начинается так называемая экономия, оказываются платные услуги, формируется фонд заработной платы. Из этих средств администрация вправе выписывать сотрудникам премии. Получалось, что в областной больнице такие премии были регулярными, а у нас — вообще не выплачивались.

И что вы думаете: все мои предположения оказались правдой.

**— То есть администрация премии "зажимала"?**

— Не знаю, было ли в курсе руководство клиники, но, как установили сотрудники УБОПиК по Витебской области, два бухгалтера и начальник планово-экономического отдела нашего медцентра с 2011-го по 2014 год присваивали деньги из фонда экономии заработной платы. Проще говоря, обворовывали 700 работников медучреждения. Деньги, которые должны были идти на премии врачам и медсестрам, оседали на их карточках. По предварительным данным, они похитили более 1,5 миллиарда рублей. Возбуждено уголовное дело, им грозит 12 лет тюрьмы. Следствие продолжается...

Знаете, как отреагировало руководство клиники на то, что я выложил в интернете свой расчетный листок? Отправили меня на курсы повышения квалификации в Минск. В прошлом году я успешно прошел эти курсы, сдал экзамен. Я, конечно, учусь с удовольствием, лекции нам читают интересные, но, с другой стороны, не разбазаривание ли это бюджетных средств? Только командировочные расходы обойдутся клинике примерно в 2 миллиона рублей, а еще оплата проживания, зарплата. Складывается впечатление, что администрация не жалеет средств, только бы держать меня от себя подальше.

В прошлом году объявили меня психопатом, упекли в клинику. Пытались насильно вливать в рот препарат — корректор поведения. Выплевывал. Тогда начали колоть французский препарат, одна ампула которого стоит более миллиона рублей. Такое у нас богатое государство, чтобы транжирить деньги на "лечение" здорового человека?!

Цинизм этой истории поражал. Это хуже, чем в советские времена. За 45 лет своей жизни я ни разу не привлекался за какие-либо правонарушения или неадекватное поведение в обществе. А в августе прошлого года забрали в "психушку" с формулировкой "состояние может ухудшиться" только за то, что поднял в клинике вопрос о низких зарплатах и посмел усомниться в итогах работы комиссии Минздрава, которая с проверкой находилась в нашей клинике и, заметьте, никаких нарушений не выявила. (Но сейчас все, о чем я говорил, подтвердила проверка УБОПиК.) Поместили в VIP-палату с телевизором. 5 дней до суда никакого лечения не давали. Это говорит о том, что никакой симптоматики не было... На суд меня не вызывали, представители клиники цинично пояснили в суде, что я не могу там присутствовать. И ни один суд, где слушалось мое так называемое дело, — районный, городской, областной — не потребовал моего присутствия. Судьи, выходит, заочно определили, что я нуждаюсь в принудительном психиатрическом лечении.

**— Как удалось выйти из лечебницы, более того — вернуться на работу?**

— Благодаря правозащитникам, журналистам, неравнодушным людям. В Витебске хотели даже шествие провести в мою защиту, Международная организация Amnesty International признала меня узником совести.

Я не хочу никому доказывать, что я здоров. Может, и не здоров. Но с тем, что я говорю публично, соглашается 99 процентов врачей. Правда, одно дело — сказать о нищенских зарплатах, коррупции публично, в интернете или под диктофон, а другое — шепотом, в своем кругу.

Поначалу у меня было желание оспорить поставленный мне диагноз. А потом я решил: зачем? Ведь неважно, здоров ли доктор Постнов. И власть, и простых людей должно беспокоить другое: здорово ли общество, в котором о вещах, которые касаются всех, говорит только "больной человек", "психопат"?!

**Ольга ГРИНЕВИЦКАЯ.**

З НАТУРЫ

# Рэквіем вёскам-дыназаўрам

Шчыра кажучы, калі б гэтая хата ў Выселках магла гаварыць, яна ўспомніла б, як у далёкі пасляваенны год гаспадар з гаспадыняй на карове, тужачыся з апошніх сіл, вывозілі спілаваныя асіны. Два ніжнія вянцы тыя, хто пасля ўзводзіў будынак, склюдоўвалі з дубу. На верхнія ішлі асіны.

І гаспадар, і яго жонка са слязьмі на вачах дапамагалі карове траляваць тое бярвенне.

— Яшчэ трошачкі! Яшчэ, Красачка! — амаль умольвала кабета карову-карміцельку. У той выпіралі рэбры, у надзіва разумных вачах жывёліны адсвечваліся такія пакуты, як і ў яе гаспадароў-гаротнікаў.

Лес тады для тых, хто перабіраўся з зямлянак у сваё новае жытло, выпісвалі бясплатна. Трэба было спяшацца...

Хату ўзводзілі, як амаль і ўсе тут, талакой. На дах запрасілі адмысловага "спеца" з суседняй вёскі. Той спрытна падбіваў кулі саломы "грабёнкай" — раўняў ля казырка. А каб надзейней і даўжэй служыў для хаты дах, прапанаваў прынесці з бліжэйшага балота чароту.

— Такому даху зносу не будзе, — казаў ён.

І праўда. У Выселках амаль усе хаты тады крыліся саломай. Не дзіва таму, што ў адну з даўніх вёсен на вільчыку аблюбавалі сабе месца буслы.

— Глядзі ты, — радаваўся гаспадар. — Бацяны пасяліліся. Няхай жывуць на добрае здароўе! Кажуць жа людзі: дзе бацян — там шчасце вядзецца.

Гаспадар любіў прыроду. Аднойчы, калі ў буслінай сям'і падраслі дзеткі і ўжо спрабавалі сілу сваім крылом, адзін цыбаты падлетак паслізнуўся над комінам і... нырнуў у яго.



— Ах ты, недаляка, — захваляваўся гаспадар. — Добра, што сёння яшчэ печ не затаплівалі. Лезь, Янук, выратоўвай бацянчыка, — звярнуўся ён да сына.

Прыставілі да сцяны хаты лесвіцу, і Іван падаўся ратаваць бусліка. Дастаў яго з коміна чорнага, як цыгана, і пасадзіў каля гнязда.

Пасля Іванава сям'я дзівілася: ад бусляняці дарослыя буслы шарахаліся, як ад якога д'ябла. Добра, што неўзабаве сыпануў з неба спорны дождж і абмыў небараку бруднае пер'е. Пасля таго бусел і бусліха прынялі ў гняздо свайго неслуха.

А гады ляцелі неўпрыкметку. Праводзіў Іван сваіх бацькоў на бліжнія клады. Ажаніўся на Мар'і — дзяўчыне з суседняй вёсачкі. Закончылі абое педвучылішча і пачалі вучыць дзетак любіць гэтую зямлю, шпакоўні, што Янук некалі развесіў у агародзе і каля школы (яна стаяла ў Выселках непадалёку ад іхняй з Машай хаты).

Пасля давялося саламяную страху замяніць на шыферную. Шкада, вядома, было буслоў, ды што паробіш. Праўда, тыя (а можа, нават той былы няўдаліца, што пабываў у іхнім коміне) перабраліся на слуп з правадамі. Там і зладзілі сваё новае гняздо.

Глядзела жытло на вакольнае жыццё новымі шырокімі вокнамі, якія зашклілі Іван ды Мар'я ў новай верандзе. Дарэчы, калі мясцовыя будаўнікі рабілі тую веранду, дык Мар'і давялося нямала з імі паспрачацца. Сталяр сівы, як лунь (казалі: пасівеў так ад гарэлкі, якую жлукціў, калі толькі выпадала) хацеў на ганку прыладзіць дзверы з нейкай фанеры.

— Ці ж, чалавеча, яны пастаяць пасля першага дажджу? — дакарала сівага Марыя. — Сюды трэба дошка. Мы ж і плацілі за яе.

Іван, дык той і не звязваўся з майстрамі. А вось Марыя — малайчына: дамаглася свайго. Праўда, прараб, што кіраваў майстрамі, усё роўна ўварваў сабе. На канёк, што павінен быў вянчаць дах, замест бляшаных загадаў прыладзіць звычайныя дошкі. І не толькі ў іхнім доме. Пасля — казалі Івану ды Мар'і — выкрылі таго прайдзісвета: у многіх хатах рабіў такія канькі. Ну а грошы, выручаныя за "жалеза", вядома, хаваў у сваёй кішэні...

...Колькі гадоў звінелі радасныя дзіцячыя галасы каля школкі, у якой настаўнічалі Іван з Марыяй. Ды і іхнія дочкі падрасталі. А потым школу закрылі. Будынак неяк непрыкметна расцягнулі. Мінула колькі гадоў, і ўжо тое месца, дзе некалі вучыліся дзеткі, можна было пазнаць толькі вясной. Тут кусціліся цяпер галіны здзічэлага бэзу, ды там-сям сустракаліся патрушчаныя кавалкі ад былога школьнага падмурка.

Апошні раз Іван пасядзеў у двары свайго жылля, калі да яго прыехаў аж з абласнога горада фотакарэспандэнт.

— Гэта ў вас у шпакоўні пасяліўся белы шпак? — запытаўся ён.

— А як жа, — адказаў Іван. — Я спачатку думаў: яго хто тынкоўкай заляпаў. Праўда. У той вунь шпакоўні, што на каштане.

Доўга небараку-карэспандэнту давялося чакаць навасёла-альбіноса, каб ён выглянуў з лятка. Але ж сфатаграфаваў: адразу відаць — высокі прафесіянал.

А Выселкі паступова вымiралі. На могілкі правёў Іван і сваю Марыю — пайшла ў лепшы свет, ляжыць поруч са сваімі роднымі. А Янук яе (парадзелі ўжо і ў яго некалі густыя кучаравыя валасы) перабраўся да малодшай дачкі ў далёкі горад.

І цяпер з жахам забітымі вачыма-вокнамі хата глядзела, як аднойчы магутны жоўты бульдозер упёрся ў сцяну суседняга жытла і пасунуў разваленыя сцены да выкапанай глыбокай ямы. Машына ішла на дом, як у наступленне на ворага. Яшчэ раз каўшом пасунула друз — раўнавала тое месца, дзе не так даўно стаяла хата...

А праз колькі дзён да дома, дзе некалі жыў настаўнік Іван, пад'ехала машына з электрыкамі. Адрэзалі правады. Яны сіратліва павіслі каля ізалятараў на франтоне дома. Буслы (іх Іван, як і яго нябожчык-бацька, называў бацянятамі) філасофскі глядзелі на людзей, што, відаць, збіраліся руйнаваць і гэтае — чарговае — паселішча...

Што ж, як некалі казаў адзін мудрэц: усяму свой час. Мусіць, і многія вёскі пачалі выміраць, як некалі вымерлі на зямлі дыназаўры. Няхай у памяць аб іх рэквіемам будуць вось гэтыя сціплыя радкі.

**Міхась ДАНІЛЕНКА.**

*Гомель.*

ДИСКУССИЯ

# Не занижайте норму на воду!



Автор Степан Кудрин в заметке ***"14 вёдзер вады на дзень — хіба гэта мала?"*** высказал свой взгляд на водный норматив. Однако не поделился личным опытом расхода воды на домашние нужды, как это делали предыдущие читатели. Будто забыл про мойку посуды, стирку, про ванну, душ, огород, про скотину, которую люди держат в хозяйстве. Вообще обошел стороной санитарно-гигиенические правила! Потому и показалось Степану Кудрину, что 140 литров воды на человека в день — это чересчур. Он прикинул в своих расчетах, что при такой норме на всех жителей Беларуси за год понадобится годовой сток "батьки-Немана" возле Столбцов или почти все озеро Нарочь. Подчеркнул известный ему факт, что озеро Дривяты, которое вблизи Браслава, за последние сто лет отступило почти на 200 метров...

Не будем затрагивать большую реку и озеро. Мы в советские времена видели, как пересохли небольшие речки, как вода исчезала из колодцев в некоторых деревнях. И тут не Галя виновата, что несет столько воды, что аж коромысло гнется. А виновата проведенная мелиорация. Галя как раз меньше всех расходует воду: на плече разве много воды унесешь?

"Народная Воля" публиковала мнения читателей по поводу норматива на воду. Хотелось бы, чтобы самые дельные предложения были учтены специалистами Министерства ЖКХ. Читатели предлагали "не занижать" и без того зажатый норматив, так как это ударит по карману простых людей.

Чрезмерное ограничение расхода воды уменьшением норматива к добру не приведет. Расскажу о таком случае. Знакомый мне сельчанин с полгода пролежал в больнице. Его жена, находясь дома, брала воду из их собственного колодца. Домашних животных они уже не держали — ни корову, ни свиней. Мало воды хозяйка расходовала на одну себя. И что получилось из такой "экономии"? Пока хозяин был в больнице, вода в ранее отличном колодце застоялась, стала непригодной для питья. Пришлось ее потом несколько дней подряд сливать прямо на огород, чтобы подошла свежая. Вот и попробуй экономить воду в сельском колодце! Такое может случиться и с городским водопроводом, когда чрезмерно уменьшат норматив расхода воды.

У природы есть свои законы и правила. И колодцу надо дышать, водицу обновлять. Иначе - застой, и возникнет проблема.

В заметке Степан Кудрин пишет: *"А я думаю так: 140 літраў — гэта аж 14 вёдзер па 10 літраў кожнае! Хочацца ўбачыць таго чалавека, які так сябе любіць, што будзе штодзённа цягаць з калодзежа на сваю патрэбу столькі вады. Ды не ўсякі калодзеж вытрымае такую "смагу".* Надо сказать: выдержит и легко. Колодцу необходима циркуляция воды как средство самоочищения.

Могу дать Степану Кудрину адрес этих людей, которые спасали свой колодец. Так что не нужно чрезмерно скупиться на воду. Любые нормы, в том числе и по расходу воды, должны быть научно обоснованными, а не взятыми чиновниками с потолка. Если норма постоянно занижается, то какое тут научное обоснование? Это скорее всего путь, ведущий к застою, как в том сельском колодце, который пришлось экстренно спасать.

**Иван КАЧУР, ветеран с 45-летним трудовым стажем.**

*Минск.*



УСПАМІНЫ

# Як на Ляхаўшчыне паны жылі

Я нарадзілася і вырасла ва ўсходняй частцы нашай краіны, дзе на той час зусім не засталося старадаўніх будынкаў: храмаў, касцёлаў, панскіх маёнткаў. Мы раслі перакананымі, што "рэлігія — гэта опіум для народа", а тыя людзі, якія некалі жылі ў маёнтках, паны, нешта вельмі страшнае і злое. Ну як, напрыклад, памешчыца Салтычыха ці баярыня Марозава. Але, калі я пасля заканчэння вучобы прыехала працаваць у Брэсцкую вобласць, дзе яшчэ ў 60—70-я гады мінулага стагоддзя захаваліся будынкі прыгожых цэркваў, касцёлаў, панскіх маёнткаў, мне як інжынеру-будаўніку было вельмі цікава разглядаць іх незвычайную архітэктуру, дзівіцца прыгожымі вітражам, кафлям, паркету.

Пасля, калі я выйшла замуж, аказалася, што мая свякроў — мама Надзя — жыла побач з жывымі панамі і мела з імі зносіны. Мне гэта было настолькі дзіўна, што я замучыла яе пытаннямі: якія былі яны, паны, ці добрыя, ці багатыя? На той час яшчэ і маёнткі іх захаваліся, і прыгожыя паркі, і вялізны сад, з якога яшчэ і я паласавалася смачнымі яблыкамі. Аказалася, што на адлегласці прыкладна два кіламетры адзін ад аднаго ў гэтай мясцовасці на Ляхавіччыне жылі два браты — высокаадукаваныя шляхціцы Фларыян і Тадэвуш Бохвіцы. У абодвух была добра арганізавана на высокім па тым часе навуковым узроўні сельская гаспадарка з прымяненнем сельгастэхнікі. У Тадэвуша, які жыў у аднапавярховым маёнтку ў сядзібе Вошкаўцы, быў млын, які доўга яшчэ пасля 1939 года служыў мясцоваму люду. Яго, як і сядзібу, у якой доўгі час пасля месцілася ўчастковая бальніца, зруйнавалі некалькі гадоў таму. У Фларыяна быў не вельмі вялікі, але двухпавярховы маёнтак, а сядзіба яго называлася Флер'янова, мелася добрая гаспадарка. Маёнтак гэты мае цікавую архітэктуру, захаваўся і па сённяшні час дзякуючы таму, што там доўгі час месцілася праўленне калгаса імя Ламаносава, а калі калгаса не стала, дзякуючы намаганням яго былога старшыні — мясцовага жыхара Героя Сацыялістычнай Працы Генрыха Міхайлавіча Трацяка. І хоць яму ўжо за 70, ён той парк абкошвае, і нейкі рамонт будынка зрабіў, і з усіх сіл стараецца, каб мясцовыя ўлады і грамадства не далі гэтай прыгажосці прыйсці ў заняпад.

Дык што я даведалася пра паноў Бохвіцаў ад сваёй свекрыві — мамы Надзі? Па-першае, што гэта былі адукаваныя, разумныя і добрыя людзі. Па цяперашнім маім паняцці гэта былі тагачасныя фермеры. Але дзякуючы разумнаму, пісьменнаму вядзенню гаспадаркі, ад якой яны мелі добры прыбытак, яны маглі займацца навукай, пісаць кнігі, арганізаваць асяродак беларуска-польскіх культурных зносін. Тадэвуш Бохвіц на лета адкрываў у Флер'янова пансіянат на 10 чалавек (як цяпер называецца, аграсядзібу) за, як пісала Эліза Ажэшка, памяркоўную плату. Пры маёнтку быў прыгожы парк, вялікі сад з партэрным кветнікам, пляцоўка для крыкету, прыгожая ліпавая алея. А яшчэ свежае паветра, побач рэчка Ведзьма — прыток Шчары, добрая ежа, бо ў гаспадарцы разводзілі пародзістых кароў і коней, выраблялiся смачныя сыры, была пасека, свае садавіна і гародніна. Адпачываць у пансіянат на лета прыязджалі выдатныя дзеячы літаратуры і культуры Эліза Ажэшка са сваёй сакратаркай Марынай Абрэмскай, Уладзіслаў Рэймант, Юзэф Катарбінскі і іншыя. Яшчэ захаваўся дуб, які пасадзіла некалі Эліза Ажэшка. Заснаваў радавое гняздо дзед Бохвіцаў Ян Отан, былы афіцэр, філосаф, вучоны.

Фларыян Бохвіц напісаў некалькі кніг па выхаванні людзей і іх ролі ў грамадстве, а таксама творы філасофска-этычнага накірунку. Яго праца выклікала ў свой час вялікі інтарэс у грамадстве. Тадэвуш Бохвіц меў сельскагаспадарчую адукацыю, добра валодаў французскай мовай, захапляўся гісторыяй журналістыкі — як польскай, так і рускай. Сабраў вялікую калекцыю перыядычных выданняў, склаў бібліяграфію па гісторыі польскай журналістыкі. Напэўна, яны займаліся гаспадаркай не дзеля набыцця багацця, а каб мець сродкі займацца навукай, літаратурай, гісторыяй краіны. На маё пытанне, ці багатыя былі гэтыя паны, адказ быў такі: "У іх былі шафы з кніжкамі, а ў пані Лялечкі была брычка".

А наконт таго пытанне, ці добрыя былі паны, я зрабіла выснову з аповеду свекрыві пра тое, што калі ў яе нарадзіўся першы сын, то пані Лялечка прыехала яе адведаць, прывезла ў падарунак прасціну з карункамі і нешта яшчэ. Прасціны ўжо няма — больш за 70 год прайшло, а карунaчкі ад яе я яшчэ захоўваю, унукам паказваю. І да людзей паны ставіліся — дзякуючы свайму выхаванню і культуры — добра. Мясцовыя людзі ў іх працавалі, паны ім за гэта плацілі. На святы ля маёнткаў наладжваліся ігрышчы, моладзі выносіліся пачастункі.

Я думаю, што вопыт братоў Бохвіцаў быў бы карысным нашым цяперашнім фермерам і арганізатарам аграсядзіб. У Ляхавіцкай раённай бібліятэцы іх кніг няма, можа, што ў Польшчы засталося. Хочацца, каб вучоныя-гісторыкі больш справядліва даносілі моладзі гісторыю нашай краіны, а не падтасоўвалі яе пад патрэбы і ідэалогію ўлады.

**Валянціна Іванаўна ПАБЯГАЙЛА.**

*г.Ляхавічы Брэсцкай вобласці.*

**P.S.** Звесткі пра Бохвіцаў я знайшла ў кнізе "Памяць" — гісторыка-дакументальнай хронiцы Ляхавіцкага раёна.

ТАК ДУМАЮ!

## *Может, помогут менеджеры из-за рубежа?*

Руководители Беларуси признали, что показатели роста в 2013 году снизились, а многие и вовсе не выполнены. Как говорят в народе, "не куется и не плещется".

За 20 лет своего руководства Лукашенко добился того, что страна топчется на месте в своем развитии, а уровень жизни народа значительно ниже, чем в странах Европы и Азии. Правда, еще африканские страны остаются, но не исключено, что скоро и они обгонят Беларусь по темпам экономического роста.

Напрашивается вопрос: если руководство страны не в состоянии управлять экономикой, то не пригласить ли нам специалистов-менеджеров из развитых стран? Ведь приглашаем мы тренеров из других стран и имеем положительные результаты в спорте. Дарья Домрачева под руководством Клауса Зиберта стала трехкратной олимпийской чемпионкой. Безусловно, Даша и сама девушка талантливая, но, согласитесь, важно, как этим талантом распорядиться.

Так и в стране. Белорусы — нация трудолюбивых, толерантных людей. Создадут условия — и производительность труда будет не хуже, чем в развитых цивилизованных странах.

**Анна СЕМЕНОВА.**

*г.Борисов.*

ПЫТАННЕ-АДКАЗ

## *Куды можна ўладкаваць чэкі «Маёмасць»?*

*Я хацела спытаць, ці можна яшчэ некуды "прыстроіць" чэкі "Маёмасць"? У майго бацькі застаўся 71 такі чэк. Я так зразумела, што іх можна ўкласці ў акцыі прадпрыемстваў, выстаўленых у Дзяржкаммаёмасці. Іх тэрмін прыдатнасці яшчэ не сышоў?*

***Святлана Іванова, Мінск.***

Тэрмін абарачэння імянных прыватызацыйных чэкаў "Маёмасць", выдача якіх пачалася яшчэ ў красавіку 1994 года, падоўжаны да 30 чэрвеня 2016 года. Згодна з падлікамі спецыялістаў, каля 40 працэнтаў чэкаў не пагашаны ўладальнікамі, але трэба ўпэўніцца, што вашы паперы яшчэ не выйшлі з абароту.

*"Сапраўднымі да абмену на акцыі прызнаюцца каштоўныя паперы "Маёмасць", якія належаць асабіста грамадзяніну, падораны яму блізкімі сваякамі (колькасцю не больш за 250) і атрыманы па спадчыне"*, — цытуе ng.by кансультант Фонду дзяржаўнай маёмасці Дзяржаўнага камітэта па маёмасці Беларусі **Уладзімір Астаф'еў**.

Даведацца, колькі каштуюць вашы чэкі, на акцыі якіх прадпрыемстваў іх можна памяняць, можна толькі ў філіялах "Беларусбанка" выключна па месцы вашага жыхарства.

**Марыя МАЛЕВІЧ.**

МНЕНИЕ

## *Выборы. Что делать?*

Участие в выборах в местные Советы со стороны демократических сил обязательно. Особенно это касается партий, потому что именно участие дает широкую возможность массового общения с людьми. Это работа с избирателями, с членами избиркомов и даже властью.

Есть ли шанс победить? Шанс есть даже тогда, когда он совсем мал. Кроме того, даже отрицательный результат дает положительный опыт.

С уважением —

**Анатолий АКСЮТИН.**

*г.Бобруйск.*

З ЛІСТА

## *Пра Курапаты трэба пісаць часцей*

Прачытаў успаміны Л.Р.Бастунца "Дзень, калі памёр Сталін". Лічу, што пакуль у нас пад Мінскам існуе "Лінія Сталіна" са скульптурай "правадыра ўсіх народаў" і пакуль няма мемарыяла ў Курапатах, трэба на гэтую тэму пісаць часцей, каб моладзь ведала сапраўдную ролю Сталіна ў гісторыі, чаго яго кіраўніцтва каштавала ў тым ліку беларусам. Хачу, каб моладзь не забывала пра Курапаты. А што тычыцца "Лініі Сталіна"... Я добра ведаю яе ролю ў вайне, бо ў тых мясцінах пяць гадоў выкладаў гісторыю ў школе. Тая "Лінія Сталіна" ў 1941 годзе сябе не апраўдала. Аб гэтым мне тутэйшыя жыхары распавядалі.

**Сымон БАРЫС.**

*Мінск.*

ПА ВАШАЙ ПРОСЬБЕ

## *«Мы выйдзем шчыльнымі радамі...»*

***Сэрца заходзіцца, калі чуеш і бачыш, як украінцы спяваюць свой гімн. Нам пра такое застаецца толькі марыць, бо наш дзяржаўны гімн не аб'ядноўвае, а ряз'ядноўвае беларускае грамадства. Але прачытаў у "Народнай Волі", што арганізатары акцыі на Дзень Волі прапанавалі ўсім удзельнікам вывучыць гімн "Мы выйдзем шчыльнымі радамі". Мне вельмі падабаецца гэтая ідэя — самім абраць гімн, таму, думаю, на старонках газеты абавязкова трэба будзе працягнуць гэтую дыскусію. Але калі гаварыць пра бліжэйшую акцыю, то прашу газету надрукаваць тэкст песні, якую арганізатары прапануюць сумесна праспяваць.***

**Георгій Давыдоўскі, г.Мінск.**

"Мы выйдзем шчыльнымі радамі", таксама вядомы як "Ваяцкі марш", — дзяржаўны гімн Беларускай Народнай Рэспублікі, якая была абвешчана 25 сакавіка 1918 года.

Тэкст, які напісаў Макар Краўцоў, быў упершыню апублікаваны 30 кастрычніка 1919 года ў газеце "Беларусь" пад назвай "Ваяцкі гімн". Аўтарам музыкі да гімна з'яўляецца Уладзімір Тэраўскі. У якасці гімна Беларусі марш быў прыняты ў 1920 годзе. На момант яго напісання БНР ужо дэ-факта не існавала, а яе кіраўніцтва знаходзілася ў выгнанні.

У савецкія часы песня аказалася пад забаронай. Пры гэтым былі спробы адаптаваць яе пад рэаліі камуністычнага рэжыму з заменай згадкі пра бел-чырвона-белы сцяг на згадку пра камуністычны чырвоны сцяг. Усе гэтыя часы марш актыўна выкарыстоўваўся арганізацыямі беларускай дыяспары, якія стаялі на незалежніцкіх пазіцыях.

У 1991 годзе, пасля аднаўлення незалежнасці Беларусі, былі прапановы зрабіць "Ваяцкі марш" гімнам Рэспублікі Беларусь разам з аднаўленнем герба "Пагоня" і бел-чырвона-белага сцяга ў якасці дзяржаўных сімвалаў. У прыватнасці, з публічным зваротам наконт гэтага тады выступілі вядомыя літаратары Васіль Быкаў, Алесь Адамовіч і Рыгор Барадулін.

*Мы выйдзем шчыльнымі радамі*
*На вольны родны свой прастор.*
*Хай воля вечна будзе з намі,*
*А гвалту мы дамо адпор!*

*Няхай жыве магутны, смелы*
*Наш беларускі вольны дух.*
*Штандар наш бел-чырвона-белы,*
*Пакрый сабой народны рух.*

*На бой! За шчасце і за волю*
*Народу слаўнага свайго!*
*Браты, цярпелі мы даволі,*
*На бой — усе да аднаго!*

*Імя і сілу беларуса*
*Няхай пачуе й убачыць той,*
*Хто смее нам нясці прымусы*
*І першы выкліча на бой.*

*Браты, да шчасця мы падходзім:*
*Хай гром грыміць яшчэ мацней!*
*Ў крывавых муках мы адродзім*
*Жыццё Рэспублікі сваёй!*

ЖЕНСКИЙ ВЗГЛЯД

## *Лучше быть одной, чем вместе с кем попало*

Прочла статью по поводу презентации книги Анны Шадриной "Не замужем: секс, любовь и семья за пределами брака" и была немного удивлена.

По-моему, проблема сильно надумана. Многие женщины считают, что лучше быть одной, чем вместе с кем попало. Ведь не секрет, что немало наших мужчин сильно пьют. По количеству алкоголя, потребляемого на душу населения, мы давно находимся в лидерах. А кому нужны такие пьющие мужья, многие из которых не доживают до пенсионного возраста? А сколько преступлений совершается на алкогольной почве, сколько семей из-за этого страдает?

И наши женщины с большим удовольствием готовы покупать дорогие билеты на мужские шоу, которые предлагает реклама. Ведь там можно увидеть настоящих красивых мужчин, которые бывают только в мечтах... Вот вам и вся романтика!...

**P.S.** ***Конечно, иногда встречаются и достойные, непьющие мужчины, но их, по-моему, очень мало. И их на всех одиноких женщин не хватит...***

**Розалия РУБИНЧИК, пенсионерка.**

*Минск.*

Народная Воля
http://www.nv-online.info
11 САКАВІКА 2014 г.

ПАМЯЦЬ

# Быў. Ёсць. Будзе

## *Учора было 9 дзён, як не стала Рыгора Барадуліна*



Яго ўжо няма з намі. І ён ёсць, застаецца назаўжды. Вялікія творцы не паміраюць. Яны толькі адыходзяць... у Вечнасць.

Якраз гэта і было лейтматывам жалобнага дня 4 сакавіка, калі народ развітваўся з Народным паэтам. Шматтысячная грамада ў велізарнай зале Чырвонага касцёла і ля яго сцен (усім жа было ніяк не змясціцца)... Святая імша, праведзеная па ўніяцкім (Рыгор Іванавіч быў вернікам-уніятам), а затым і па каталіцкім абрадах, незвычайна пранікнёнае, глыбокае і ўзнёслае слова вышэйшага іерарха Рымска-каталіцкай царквы ў Беларусі — Мітрапаліта Мінска-Магілёўскага, арцыбіскупа Тадэвуша Кандрусевіча... Уражанне каласальнае! У словах сяброў, у настроі знаёмых і незнаёмых людзей адчувалася доўгачаканая сіла паяднанасці высокім. Дай Бог, каб не толькі перад тварам смерці... Здавалася, што Рыгор Іванавіч і зараз усіх чуе, усё бачыць, і вусны яго бязгучна шэпчуць, як заўжды на кожную праяву дабрыні, "дзякуй... дзякуй... дзякуй". Ляжыць у дамавіне, аточанай горамі кветак, — такі прасветлены, памаладзелы, прыгожы ў сваёй простай палатнянай вышыванцы. Толькі на ёй — не пышныя ружы і гваздзікі, а сціплыя, наймілейшыя палявыя кветкі яго Вушаччыны.

Туды, на радзіму, у той жа дзень павёў апошні зямны шлях Вялікага сына Беларусі. Ён так жадаў: быць пахаваным побач з мамай Акулінай Андрэеўнай, якую абагаўляў і ўвекавечыў у сваіх творах. Назаўсёды вярнуцца туды. Гэтае няўхільнае, выспеленае памкненне выказваў сямейнікам і чытачам. Радзіма ніколі не была для яго "малой". І, абдымаючы душою ўсю Беларусь, бліжэй за ўсё прыціскаў да сэрца той куток, з якога для хлопца з беларускай глыбінкі пачынаўся цэлы Сусвет. І дзе завалодала ўсёй істотай, дало цудадзейную творчую сілу, сталася лёсам гаючае, ні з чым не параўнальнае Матчына слова.

Збылося, як думаў, як хацеў.

...Праўда, адно — самае галоўнае — адбылося, так бы мовіць, звыш праграмы, задуманай Рыгорам-юнаком. Наўрад ці тады, у далёкіх-далёкіх ужо 1950-х, пачатковец у паэзіі мог уявіць, як далёка, да якіх вышынь давядзе яго яшчэ не ўсвядомлены як след магутны, уселены кімсьці Найвышэйшым, дар.

Не здагадваліся, па праўдзе, аб тым і мы, тадышнія філфакаўцы БДУ, якім выпала вучыцца ў адзін час з Рыгорам. Вяртаюся памяццю ў тую авеяную маладымі надзеямі пару — і бачу знакамітую нашу аўдыторыю №56, якая ператваралася пасля заняткаў у студэнцкі клуб. Умяшчальная зала была заўсёды перапоўнена: тут можна было пачуць знакамітых у Беларусі майстроў пяра і сцэны, музыкантаў і свяціл навукі. З асаблівым энтузіязмам віталі мы сваіх, студэнцкіх спевакоў, паэтаў. Шмат для каго з іх гэтая аўдыторыя стала пляцоўкай творчага старту.

І вось выходзіць на невысокі памост звычайны на першы погляд хлопец — танклявы, цыбаты, аднак з годнай паставай нават у сваім ношаным-пераношаным "прыкідзе". У вачах — жывы бляск, смяшынка-задорынка на вуснах. Ва ўсім абліччы — ненайграная абаяльнасць і шчырае здзіўленне: няўжо такім "адукаваным" ужо слухачам, безапеляцыйным юным крытыкам сапраўды даспадобы ягоныя опусы?

Даспадобы, яшчэ як даспадобы! Асабліва вясёлыя, прасякнутыя трапным гумарам, іскрыстым жыццялюбствам радкі, яны запаміналіся самі сабою. Часцей за ўсё Рыгор выступаў разам са сваім дружбаком Генадзем Бураўкіным і крыху старэйшым па гадах Нілам Гілевічам. Мы ад душы апладзіравалі, ганарыліся, што "нашых" ужо прыкмячаюць прызнаныя літаратурныя аўтарытэты. Запрашаюць то на нараду маладых пісьменнікаў, то аж да самога Коласа ў Каралішчавічы... Але прадбачыць, як і самой філфакаўскай "тройцы", што не так ужо і шмат вады сцячэ, як яны, тады пачаткоўцы ў літаратуры, вырастуць у флагманаў нацыянальнай паэзіі, стануць годным працягам шэрагу вялікіх сваіх папярэднікаў, — хто ж тады мог?

А хіба забыцца на тыя, зусім не сумныя, моманты ў студэнцкім жыцці, калі разам з Барадуліным і Бураўкіным мы апынуліся ў складзе рэдкалегіі факультэцкай насценгазеты? Карпелі-пыхкалі не на жарт над яе выпускам, але як без вясёлай хвілінкі? Аж падалі са смеху, часам натыкаючыся на россып "перлаў" у допісе якога "карэспандэнта"-грамацея. Рыгор, хуткі на экспромт, пускаў па гарачым следзе трапнае, але бяскрыўднае слоўца...

І зноў жа: мала каму — хіба толькі бліжэйшым сябрам — было вядома, якая глыбокая ўнутраная праца даўно запаланіла гэтага задзірлівага перасмешніка. З якой сур'ёзнасцю і любасцю ставіцца ён да кожнага беларускага слова, якія скарбы — пакуль для сябе — адкрывае ў жывой плыні, якую музыку чуе ў спеўнай, прыгожай, вобразнай, самай мілай сэрцу мове. Што яшчэ са школьных год занатоўвае, занатоўвае пачутае то ў звычайных вучнёўскіх сшытках, а потым — у дзясятках і дзясятках рознакаліберных блакнотаў. Будзе берагчы і захавае гэты неацэнны і невымерны скарб, каб ужо зусім нядаўна падарыць нам сабраны ў важкім томе "Вушацкі словазбор Рыгора Барадуліна". Цікавейшая, беспадобная рэч, у яе яшчэ ўчытвацца, заглыбляцца і здзіўляцца, узбагачацца і піць бясконцую асалоду.

Апошняя кніга пад назвай "Лепей" — таксама бяспрыкладная, ніякіх ёй аналагаў нідзе не знойдзеш. Рупнасцю сяброў паэта пад адной вокладкай змешчаны ўласнаручныя рукапісы Барадуліна. Як жа цяжка, амаль немагчыма — у цэлым моры мудрасці, дасканаласці і красы выбраць з тысяч цудоўных вершаў самае-самае-самае лепшае, занатаванае знаёмым, не заўжды разборлівым почыркам на разрозненых лістках. Але вось яно — на вякі!

Творчая энергія паэта, яго шчодрасць да чытача ўражвалі ўжо з першых барадулінскіх кніг, зусім не падобных адна на адну (да прыкладу, "Неруш", "Рунь", "Вечалле" і г.д.), у мастацка-філасофскім асэнсаванні мэты чалавечага жыцця ("Навошта"). Або ў грандыёзным, зноў-такі непаўторным паэтычным храме — зборніку малітоўных твораў "Ксты". У яго, як "палажана" сапраўдным творцам, — усё, "як ні ў кога". Толькі ў Барадуліна, бадай, яшчэ "нікогей". Бо так арганічна і непадзельна знітаваны ў адно высокія паняцці Бог, Маці, Радзіма, Любоў. А бруістай крыніцай ягонай паэзіі — невычэрпнае матчына слова.

...Апошнім разам мы бачыліся з Рыгорам Іванавічам і ягонай жонкай Валянцінай Міхайлаўнай у калядныя дні. Забегла да іх "на хвілінку" — павіншаваць са святам, убачыць на ўласныя вочы, як здароўе гаспадара, які перанёс наступы хвароб, траўм, "вандровак" па бальнічных палатах. Пакуль ён няспешна-ўдумна падпісваў для мяне новыя кнігі, а гаспадыня накрывала на стол (трэба ж было нечакана трапіць на сямейную вячэру), цікава было агледзецца. У міні-пакойчыку народнага паэта — вузенькая канапа. Па сценах паліцы з кнігамі, партрэты дарагіх людзей. На рабочым стале — набор простых шарыкавых асадак, горка блакнотаў. А па самым цэнтры, пад букетам кветак... руды кот Рысік, улюбёнец Рыгора Іванавіча, расцягнуўся ва ўсю даўжыню ў салодкай, але чуйнай дрымоце. Не паспелі, аднак, мы перайсці ў гасцёўню, як пушысты пестунок неўпрыкмет ужо апынуўся тут і зноў заснуў, працягваючы звыклы занятак...

А мы ціха гутарылі аб розным, пакуль не зайшла размова пра тое, што смылела ў сэрцы паэта, не давала спакою: лёс роднай мовы, неаддзельнай ад лёсу Бацькаўшчыны. Здзівілася, як уважліва слухаў Рыгор Іванавіч мой пераказ розных эпізодаў, сустрэч-размоў на балючую тэму з самымі рознымі людзьмі. На мае спробы спыніцца, каб не стаміць яшчэ не зусім здаровага чалавека, рашуча пратэставаў: "Не, ты расказвай, расказвай..."

Нас перапыніў тэлефон: на дроце быў Уладзімір Някляеў. Субяседнікі размаўлялі доўга, відаць, пра нешта вельмі цікавае. Раптам Барадулін... нягучна заспяваў. Было чутно: дуэтам з сябрам выводзілі прыгожую, добра вядомую ім народную песню...

Мы сталі дыханне. Але душа крыху паспакайнела — Рыгор Іванавіч, відаць, усё больш ачуньваў ад усялякіх патрасенняў са здароўем і паступова вяртаўся да сябе. На жаль, гэта толькі здавалася...

Такім — з ціхім спевам на вуснах, кранутых цёплай усмешкай, і застанецца ён у маёй памяці.

А тады, аглушальным нечаканай бядой вечарам 2 сакавіка (трэба ж было патрапіць менавіта ў такі момант!), патэлефанавала Барадуліным — прабачыцца, што ну ніяк не магла наведацца раней, і спытаць, калі можна зазірнуць. Першае ж пытанне — як пачуваецца сёння Рыгор Іванавіч? — чамусьці павісла ў паветры. Валянціна Міхайлаўна ўсё маўчала, а потым нейкім здушаным голасам, праз сілу, выціснула з сябе:

— А яго... няма... Не пачуваецца ніяк... Няма Рыгора...

— Як — "няма"? Што вы кажаце, аб чым?!

І зноў здушаны, быццам і не яе, голас:

— Дзве гадзіны ўжо як няма. "Хуткая" забрала нежывога...

Божа літасцівы! Насамрэч — няма?! Паверыць немагчыма, усвядоміць немагчыма. Хоць і ведалі-трывожыліся ўсе не адзін месяц — жыццё дзядзькі Рыгора вісела на валаску. А ён — працаваў сабе, працаваў, працаваў, выдаваў шэдэўр за шэдэўрам. Інакш проста не мог і не ўмеў. І гэтым — ці не парадокс? — трымаўся, падаўжаў свае дні. А калі... скарачаў?!

Вось і грымнула непапраўнае.

— Нічога не разумею, вакол усё засціў туман нейкі. Не веру і не паверу... Як гэта без яго? Адны мы, выходзіць, засталіся з унучкай Дамінікай. Ды Рысікам. Ён чуе бяду, ціснецца да мяне, ходзіць след у след. І глядзіць, глядзіць на крэсла, дзе сядзеў Рыгор: дзе ж гаспадар?

Крыху перавёўшы дух, Валянціна Міхайлаўна працягвае:

— Зранку было ўсё добра! Рыгор, як звычайна, схіліўся над пісьмовым сталом, загрувашчаным паперамі, — пэўна, абдумваў новую вялікую працу, да якой збіраўся прыступіць. Я пастаўіла перад ім талерку з яблыкамі і ўсяго на пару хвілін адлучылася на кухню. Вярнулася, а ён — о Божа! — задыхаецца. Кінулася да яго, а Рыгор праз колькі імгненняў і аціх! Назусім. Я нават "хуткую" тым момантам не паспела выклікаць. Як жыць? Няма яго. І не будзе, а здаваўся мне вечным...

Зноў маўчанне. І нечакана — пробліск іскрынкі ў голасе:

— А ведаеце, што сказаў мне Рыгор аднойчы не так даўно, у ціхую хвіліну? "Якая ж ты ў мяне прыгожая, прыгажэй за ўсіх!" "Красуні" ж (мне) ўжо за 75... Ды адчула на той міг неверагоднае: маладзею, сапраўды маладзею! Ну, а ён, мой сівенькі-даражэнькі, і не старэў ніколі, хай сабе даўно ўжо дзед.

Яна, каго злучыла з абраннікам на доўгую дарогу маладое, невымернае каханне, нават зараз, пахаваўшы мужа ў яго родных Вушачах, не хоча верыць у, на вялікі жаль, відавочнае і думае і гаворыць пра яго ў сённяшнім часе.

Ды і для нас усіх, хто любіць, хто ведаў ці хаця б дакранаўся да твораў Рыгора Барадуліна, ён — бясспрэчны геній, нацыянальная гордасць беларусаў — як Багдановіч, Купала, Колас. А геніі — несмяротныя! Увасобіўшы ў непаўторным слове, музыцы, карцінах, скульптурах народную душу, яны ўзвышаюць яе да нябёсаў — і таму застаюцца з намі. Сказаў жа ў свой час яшчэ адзін апостал нацыянальнага духу — лепшы сябра Рыгора Іванавіча Уладзімір Караткевіч: "Быў. Ёсць. Буду". Не толькі пра сябе сказаў, а і пра Барадуліна. Пра ўсіх, хто свой боскі дар і жыццё ахвярує без астатку дзеля самага святога — Бога і Айчыны.

Так што не адчайвайцеся, дарагія суайчыннікі! Трымайцеся, мілая Валянціна Міхайлаўна. Чуеце нязмоўчны звон над зямлёй?

У ім — журба: "Мы страцілі генія..."

У ім — радасць: "Мы маем генія!"

І, на шчасце, не аднаго. Беларуская зямля спрадвеку багатая! Толькі ўгледзімся ў яе вачыма нашых вялікіх празорцаў — і зробім такой, як захочам.

**Святлана КЛІМЕНЦЕНКА.**

ПИСЬМО ДРУГА

### Человек-эпоха

*Памяти Рыгора БОРОДУЛИНА*

Умер Поэт. Поэт исключительного дарования, проросший из земли своих предков столь естественно, сколь и неожиданно прекрасно. Как всегда рождение гения. Сейчас, когда Рыгора Бородулина нет среди живущих на земле, для него начался иной отсчет времени. И по мере его протекания будет расти масштаб, грандиозность поэта. Сделав родный язык инструментом своей поэтической воли, он поднял и обогатил его звучание до уровня величайших проявлений в мировой поэзии.

О! Язык не забывает своих поэтов, признающих над собой только одну власть — власть природного дара. И сколько бы властители не от Бога травили, унижали, изгоняли, предавали остракизму поэтов, они только тем и прилепляются к истории, что жили в эпоху Овидия, Байрона, Пушкина, Бродского, Бородулина...

И родится в Беларуси художник, который воздвигнет памятник Поэту, достойный его скромной жизни и поэтического гения, памятник, к которому "не зарастет народная тропа".

Я так тебя любил, Гриша.

**Борис ЗАБОРОВ.**
***Париж, Франция.***

***

*Борис Заборов, известный белорусский и французский живописец, график, скульптор, театральный художник и книжный иллюстратор, родился в Минске.*

*После эмиграции в Париж выставки Бориса Заборова прошли во многих странах мира. Его картины экспонировались в музеях Парижа, Нью-Йорка, Токио, Амстердама, Варшавы, Сеула, Монте-Карло, а также в Третьяковской галерее и Русском музее России. Через 30 лет после эмиграции, в 2010 году, художник выставился в Минске, в Национальном художественном музее.*

*Не одно десятилетие близко дружил с Рыгором Бородулиным.*

ПРОДАНО!

## Участок в Колодищах ушел за 38 тысяч долларов, а в Заславле — за 22 тысячи

*На недавнем аукционе желающим построить частный дом в Минском районе было предложено 15 участков в различных сельсоветах.*

*"4 участка по 10 соток выделил Горанский сельсовет — в деревне Крылово,* — информирует о результатах торгов realt.onliner.by. — *Начальная цена каждого составляла 76 миллионов рублей и увеличилась в ходе торгов примерно в 2,5 раза. Земельные наделы проданы за 201.000.000, 218.000.000, 216.836.000 и 179.204.000 рублей. За каждый из участков торговалось не менее 7 человек. Организаторы аукциона объясняют столь повышенный спрос удачным расположением деревни — на берегу Крыловичского водохранилища.*

*Самым дорогим был лот №10 — 16 соток в Колодищах. В ходе торгов его цена выросла с 285 до 376 миллионов рублей. 15 соток в Мачулищах будут проданы за 141.476.000 рублей, участки площадью 14 соток в Михановичах — за 157 и 159,5 миллиона рублей. Победитель торгов за участок в Тимошках заплатит 85.800.000 рублей".*

Следующий открытый аукцион состоится 14 марта. На нем будут предложены также 15 участков в населенных пунктах Крылово, Колодищи, Вербники, Королищевичи, Новый Двор, Новашино, Ореховская, Хатежино и Абрицкая Слобода.

КОРАТКА

## Трэцюю лінію мінскага метро пабудуюць па французскай тэхналогіі

*Кампанія CSM Bessac паставіць у Беларусь інавацыйнае абсталяванне, якое дазволіць у 2,5 раза паскорыць будаўніцтва сталічнай падземкі.*

Кантракт на пастаўку абсталявання з французамі падпісала УП "Мінскметрабуд". Аб'ём кантракта — 11,5 мільёна еўра. На такую суму беларускі бок закупіць тунэлеправодны комплекс з перыферыйным абсталяваннем, інфармуе БЕЛТА.

Упершыню ў гісторыі будавання метро ў Мінску будзе прыменены механізаваны праходны комплекс. Дзякуючы яму хуткасць пракладкі перагонных тунэляў дасягне 250 метраў у месяц. Дагэтуль пракладвалі толькі 40—70 метраў штомесяц.

## Павялічыліся стаўкі падатку на арэнду жылля

*Згодна з рашэннем Мингарсавета, вызначаны памеры ставак падаходнага падатку з фізічных асоб на іх прыбыткі ад здачы ў арэнду (субарэнду) жылых і нежылых памяшканняў, а таксама машына-месцаў.*

Гэтыя памеры ставак прымяняюцца, калі ў падатковым перыядзе прыбытак ад здачы памяшканняў не перавысіў 37,835 мільёна рублёў, інфармуе БЕЛТА.

Стаўкі для Мінска вызначаюцца ў залежнасці ад эканоміка-планіровачнай зоны, у якой знаходзіцца здадзенае ў арэнду памяшканне. Стаўкі падатку на жыллё (за кожны здадзены пакой), садовыя хаткі, дачы ў першай эканоміка-планіровачнай зоне складуць 200 тысяч рублёў у месяц.

## У Мінтрансе прыгразілі «хітрым» кіроўцам

*Міністэрства транспарту звярнула ўвагу на павелічэнне колькасці аўтамабіляў, якія ажыццяўляюць паслугі таксі пад таблічкай "арэнда аўтамабіля".*

*"Кіроўцы такіх аўтамабіляў тлумачаць, што яны не ажыццяўляюць перавозкі пасажыраў аўтамабілямі-таксі, а аказваюць паслугі па арэндзе транспартнага сродку з прадастаўленнем паслуг па кіраванні і тэхнічнай эксплуатацыі",* — паведамляе прэс- служба Мінтранса.

Такая маскіроўка дазваляе прадпрымальнікам пазбегнуць тэхагляду раз у паўгода, не рэгістравацца ў ДАІ для атрымання адпаведнага знака і не заключаць дагаворы па страхаванні, а таксама наймаць кіроўцаў, узровень якіх ніжэй, чым устаноўлены для кіроўцаў таксі.

У Мінтрансе адзначаюць, што паслугі таксі, якія ажыццяўляюцца на аснове публічнага дагавора, юрыдычна маюць істотныя адрозненні ад прадастаўлення арэнды і аўтамабільных перавозак, для якіх неабходна заключэнне дагавора.

У выпадку выяўлення таксісты-арэндадаўцы будуць пакараны за парушэнне правіл ажыццяўлення відаў дзейнасці або за безліцэнзійную дзейнасць. Таксама пакаранне пагражае і дыспетчарам, якія перадаюць заказы такім кіроўцам.

## У Беларусі на 100 мужчын — 115 жанчын

*На пачатак года ў нашай краіне налічвалася 5,1 мільёна жанчын, або 53,5% ад агульнай колькасці насельніцтва.*

Паводле папярэдніх звестак дэмаграфічнай статыстыкі, на 1000 мужчын прыпадае 1151 жанчына (або 115 жанчын на 100 мужчын).

ТЫМ ЧАСАМ

## Болей за 4,5 тысячы жанчын служаць у беларускім войску

*Пра гэта паведамляе Міністэрства абароны.*



У ведамстве ўдакладняюць, што 500 жанчын-вайскоўцаў — афіцэры (у тым ліку 53 падпалкоўнікі і 4 палкоўнікі), а каля 1,1 тысячы — прапаршчыкі. Пры гэтым агульная колькасць жанчын-афіцэраў за апошнія 10 гадоў павялічылася ўтрая.

Як адзначаюць у Міністэрстве абароны, сёння ў жанчыны ёсць рэальная магчымасць стаць афіцэрам, галоўнае, каб узрост прэтэндэнтак не перавышаў 35 гадоў, а вышэйшая адукацыя была роднаснай вайсковай спецыяльнасці, перадае belta.by са спасылкай на прэс-службу Мінабароны.

ПРАЕКТ

## Як назвалі аквапарк?

*Мінскі аквапарк на праспекце Пераможцаў афіцыйна будзе называцца "Лябяжы"— у гонар размешчанага побач аднайменнага прыродна-біялагічнага заказніка.*

Нагадаем, конкурс на лепшую назву аквапарка быў абвешчаны ў 2012 годзе, а яго пераможцу абяцалі прэзентаваць бестэрміновы абанемент на дзве персоны. Журы атрымала больш за 5 тысяч лістоў і спачатку выбрала варыянт "Купалле". Аднак у ліпені мінулага года, наведваючы аквапарк, А.Лукашэнка даў даручэнне падумаць над іншай назвай.

— *Мы ўжо стварылі групы ў сацыяльных сетках, дзе можна даведацца апошнія навіны аб аквапарку, а ў красавіку будзе запушчаны афіцыйны сайт*, — цытуе onliner.by прэс-службу аквапарка.

ТЫМ ЧАСАМ

### Новае аблічча «Трактара»

*Водны комплекс з двума басейнамі на вуліцы Даўгабродскай у Мінску плануюць адкрыць да Дня горада.*

Ён з'явіцца на месцы былога басейна "Трактар", які быў пабудаваны ў канцы 60-х гадоў мінулага стагоддзя. У 2007 годзе будынак перадалі ў камунальную ўласнасць Мінска і замацавалі за Гарадскім цэнтрам алімпійскага рэзерву па водных відах спорту. Тады ж было вырашана стварыць новы комплекс, які стаў бы не проста трэніровачнай базай для спартсменаў, але і месцам правядзення спаборніцтваў міжнароднага ўзроўню.

Работы пачаліся ў 2009-м і нарэшце падыходзяць да фінішу. У новым комплексе два 25-метровыя басейны. Першы прызначаны для навучання плаванню, другі — для правядзення спаборніцтваў. Тут жа будуць адкрыты зала трэнажораў і аэробікі, некалькі саўн, кафетэрый, адміністрацыйныя кабінеты. На даху будынка пад навесам арганізавана аўтастаянка.

Улічаючы, якія чэргі выстройваюцца сёння ў многія сталічныя басейны за абанементамі, яшчэ адзін сучасны водны комплекс дакладна будзе нялішнім!

## Што здарылася з Вікторыяй Азаранка?

*Беларускія тэнісісты няўдала выступілі на буйным турніры ў Індыян-Уэлсе (ЗША), прайграўшы ўжо ў стартавых матчах.*

Трэцяя ракетка спаборніцтваў Вікторыя Азаранка (4-е месца ў сусветным рэйтынгу) у першым раўндзе (1/64 фіналу) была вольная, а ў другім саступіла 20-гадовай амерыканцы Лоўрэн Дэвіс, якая займае ў рэйтынгу 66-е месца — 0:6, 6:7 (2:7).

У першым крузе (1/16 фіналу) мужчынскага парнага разраду Максім Мірны (24) і расіянін Міхаіл Южны (69) саступілі "пасеяным" пад трэцім нумарам Івану Додзігу (Харватыя, 6) і Марсела Мела (Бразілія, 5) — 3:6, 2:6.

Такім чынам, чорная паласа для Азаранкі працягваецца. Сама спартсменка спасылаецца на дрэнны стан здароўя і кажа, што, "па сутнасці, гуляе на адной назе".

Тым часам індыйскія СМІ паведамляюць, што Вікторыя Азаранка выйдзе замуж за свайго амерыканскага бойфрэнда Рэдфу ўжо ў бліжэйшыя месяцы.

Паводле інфармацыі індыйскага сайта dnaindia.com, вяселле можа адбыцца ў горадзе Джайпур (Індыя).

## Пачынаюцца паўфінальныя матчы чэмпіянату краіны па хакеі

*Гродзенскі "Нёман" і "Гомель" сталі апошнімі паўфіналістам хакейнага чэмпіянату краіны.*

У матчах чвэрцьфінальнай серыі (да трох перамог) гродзенцы выйгралі ў "Брэста", а гамяльчане — у салігорскага "Шахцёра".

Напярэдадні ў паўфінал кваліфікаваліся "Юнацтва" і "Металург", якім для высвятлення адносін адпаведна з "Лідай" і "Хімікам-СКА" хапіла трох паядынкаў.У серыях за выхад у фінал (да чатырох перамог) "Нёман" будзе сапернічаць з "Металургам", а "Юнацтва" — з "Гомелем".

Матчы пройдуць 14, 15, 18, 19 сакавіка і пры неабходнасці 21, 23 і 25 сакавіка, піша БелаПАН.

АСОБА

*Мікалай КАЗЕКА:*

# «Я не люблю бізун...»

***Галоўны трэнер зборнай Беларусі па фрыстайле Мікалай КАЗЕКА, чые вучні заваявалі на Алімпіядзе ў Сочы два залатыя медалі, распавядае "Народнай Волі", як яго бабуля і дзядуля адкрывалі Амерыку, успамінае пра свае сустрэчы з Іванам Мележам і Петрусём Броўкам, а таксама расказвае пра ўсіх сваіх дзяцей.***



Практычна ні з адной Алімпіяды падапечныя Мікалая Казекі не вярталіся дадому без медалёў. Нагана-98 — "бронза" Дзмітрыя Дашчынскага, Солт-Лэйк-Сіці-2002 — "бронза" Аляксея Грышына, Турын-2006 — "серабро" Дзмітрыя Дашчынскага, Ванкувер-2010 — "золата" Аляксея Грышына, Сочы-2014 — "золата" Антона Кушніра і Алы Цупер.

Яму паступалі дзясяткі прапаноў змяніць грамадзянства і трэніраваць іншыя зборныя. Не захацеў. Застаўся на радзіме. Яго называюць сапраўды геніяльным трэнерам... А ці лічыць сам Мікалай Іванавіч сябе такім?

— Ды кіньце вы! — смяецца мой суразмоўца. — Я аб гэтым наогул ніколі не задумваўся. Проста аддана раблю сваю работу. Усё! Напэўна, таму і знаходжу кожны раз нейкія новыя спосабы ўдасканальвання.

**— Вашы продкі, бацькі таксама былі дастаткова каларытнымі асобамі. Магчыма, гэта на генным узроўні?**

— Так, у бабулі і дзядулі, безумоўна, цікавы лёс. Яны нарадзіліся ў Мінскай вобласці, дзядуля, Дзмітрый Іванавіч, працаваў на Яраслаўскай чыгунцы. У 1913 годзе там адбылася забастоўка, усіх рабочых звольнілі. Застаўся без работы. І вось дзядуля разам з бабуляй, Агаф'яй Антонаўнай, якая на той час служыла ў святара, вырашылі з'ехаць у Амерыку. Пакінулі тут дачку (маю цётку) на сваіх бацькоў і накіраваліся за акіян. Як кажуць, на лепшы хлеб. А ўжо ў Нью-Ёрку нарадзілася мая мама.

**— Чым яны там займаліся?**

— Бабуля служыла ў багатай сям'і, а Дзмітрый Іванавіч уладкаваўся газаэлектразваршчыкам.

**— Але ж трэба было англійскую мову ведаць...**

— Вывучылі, жыццё прымусіла. Дарэчы, пасля таго як яны вярнуліся на радзіму, бабуля вучыла мяне замежнай мове, я хадзіў у школу з англійскім ухілам.

**— А чаму вярнуліся з Амерыкі?**

— У 1924 годзе праходзіла вялікая кампанія па вяртанні дадому з-за мяжы суайчыннікаў. Бабуля і дзядуля таксама прынялі для сябе рашэнне вярнуцца. Прыехалі ў Мар'іну Горку і... стварылі там камуну.

**— І на самай справе незвычайны лёс...**

— А дзядуля гэтую камуну нават узначаліў! Кажуць, што справы там ішлі вельмі добра, але ж часы былі такія, што Дзмітрыя Іванавіча праз нейкі час, як і многіх іншых, рэпрэсіравалі. Ці то нехта паклёп напісаў, ці нешта яшчэ... Праўда, пад рэпрэсіі патрапіў нязначныя — пазбавілі пасады. А многіх жа ў Сібір накіроўвалі, "вышку" давалі.

**— А на Агаф'і Антонаўне рэпрэсіі не адбіліся?**

— Яны ўжо на той час з дзедам развяліся... Мая мама заканчвала педагагічнае вучылішча, у 1939-м выйшла замуж за тату — Івана Дарафеевіча. Ён прайшоў вайну, быў ранены пад Вязьмай. Закончыў Беларускі дзяржаўны педагагічны інстытут, выкладаў у школе ў Дукоры, але па нядзелях прыязджаў у Мінск, дзе сустракаўся са сваімі студэнцкімі сябрамі. Тут з мамай і пазнаёміўся.

**— Адным словам, вы выраслі ў сям'і педагогаў.**

— Так і ёсць. Бацька выдаваў шмат кніг (падпісваўся псеўданімам — Янка Казека), займаў пасаду галоўнага рэдактара Белдзяржвыдата. Даследаваў творчасць Івана Мележа, Кандрата Крапівы, працаваў над першай Беларускай Савецкай Энцыклапедыяй разам з Петрусём Броўкам, добра ведаў іншых пісьменнікаў.

**— Яны былі ў вас у гасцях?**

— А як жа?! Калі ў бацькі было 50-годдзе, усе сабраліся ў нас дома, мы тады жылі каля філармоніі. Памятаю, размаўлялі толькі на беларускай мове, чыталі вершы. Мне гэта так падабалася! Была такая прыгожая і мілагучная размова. Таму я заўсёды свабодна размаўляю і на рускай, і на беларускай мовах, а нядаўна з захапленнем прачытаў "Гамлета" ў беларускім перакладзе.

**— А вершы вы не пісалі?**

— Чаго не было, таго не было. Як хтосьці цудоўна сказаў: добра пісаць не атрымлівалася, а дрэнна не хацеў. Але ў нас была вялізная бібліятэка, я шмат чытаў, калі бацька дазваляў браць кніжкі. Увогуле, ён чалавек заўсёды заняты быў, здаралася, што працаваў да позняй ночы. У яго стаяў вялікі пісьмовы стол, які я, дарэчы, у наш трэнерскі офіс перавёз і таксама працую за ім.

**— Мікалай Іванавіч, а наогул, у вас было строгае выхаванне?**

— Дэмакратычнае. Мяне нават у спартыўную секцыю ніхто не адводзіў. У школу прыйшоў трэнер Леанід Іосіфавіч Ліўшыц, так я і пачаў займацца скачкамі на батуце. А пасля з'ехаў у Стаўрапаль, дзе была вельмі добрая каманда батуцістаў. Заваёўваў медалі на чэмпіянаце Саюза, стаў чэмпіёнам СССР...

**— Бацькі вам дапамагалі матэрыяльна, калі адарваліся ад "гнязда"?**

— Дык асаблівай неабходнасці і не было. У зборнай абувалі, апраналі, кармілі. Атрымоўваў нейкую стыпендыю. А пазней за перамогі на саюзным першынстве давалі і прызавыя.

**— На асабістае жыццё час заставаўся?**

— Хапала. Хадзілі ў кіно, на танцы, у сабе, што называецца, не закрываўся. На зборах, безумоўна, былі нейкія абмежаванні, а ў астатні час... Скажам так, трэніроўку мог і правалыніць.

**— А ў арміі служылі?**

— Так, у Мінску ў спартыўнай роце. Праўда, служба працягвалася ўсяго каля тыдня. Прыняў прысягу, выйграў чэмпіянат Саюза — вось і ўся армія.

**— Ці позна вы ажаніліся?**

— А я не ведаю, ці позна гэта — ажаніцца ў 30 гадоў. Для кагосьці — так, некаторыя лічаць, што рана. Як пакахаў, так і ажаніўся. З Людмілай мы пазнаёміліся ў банку, дзе яна працавала. Я на той час ужо спортам не займаўся, быў трэнерам па скачках у ваду. Дарэчы, вяселле ў нас было ў Доме літаратара 4 кастрычніка 1980 года — у дзень, калі разбіўся Пётр Машэраў. А бацька майго вучня Алега Часнакова быў ахоўнікам Машэрава. І вось пачынаецца вяселле, і нам паведамляюць: "Разбіўся Пётр Міронавіч!.." Так што свята было, як кажуць, са слязамі на вачах...

Да слова, у 2000 годзе з жонкай я развёўся, і зараз у мяне другі шлюб.

**— Неяк расказвалі, што ваш сын не пайшоў па слядах бацькі.**

— Аляксандр закончыў у Амерыцы Дэнверскі ўніверсітэт. Выкладаў там, працаваў над доктарскай дысертацыяй. Але чатыры гады таму сын пераехаў у Фрайбург, дзе працягвае займацца навуковай працай.

**— Фрыстайлісты для вас — гэта таксама дзеці?**

— Безумоўна, гэта мая сям'я. І, магчыма, нават асноўная *(смяецца)*. Я ж з імі на зборах знаходжуся больш, чым дома з жонкай.

**— Складаныя характары ў зорных дзетак?**

— Розныя.

**— Бізун ці пернік: што вам бліжэй?**

— Я не люблю бізун, кардынальныя рашэнні прымаю толькі тады, калі бачу, што іншага выйсця няма. Што чалавек не на тым шляху. Таму лепш за ўсё ўздзейнічаць словам. Але, ведаеце, калі людзі аб'яднаны нейкай агульнай справай, то нават і словы не патрэбны. Усё разумеюць з паўслова.

**— Мікалай Іванавіч, а як вам удалося ўгаварыць пачаць трэніравацца пасля двухгадовага перапынку Алу Цупер, якая нарадзіла дачушку, знаходзілася ў дэкрэтным адпачынку?**

— Па-першае, Ала катэгарычна не казала, што яна сыходзіць з вялікага спорту канчаткова. Проста чалавек вырашыў нарадзіць дзіця. Таму ўнутрана яна была не супраць ізноў пачаць трэніроўкі, а я разумеў, што яна поўнасцю сябе не рэалізавала. Ала магла шмат на якіх Алімпіядах узяць медаль, але ж не атрымлівалася. Таму мы разам з мужам спартсменкі паціху яе і апрацоўвалі. Тым больш жывём у адным доме. І, у рэшце рэшт, апрацавалі.

**— А дачку яна на каго пакідала падчас трэніровак?**

— Ала пачала трэніравацца, калі Лізе не было яшчэ і года, даводзілася карміць яе. Таму часам брала малую з сабой на зборы. І Ліза свае першыя крокі зрабіла менавіта ў Швейцарыі, калі мы там трэніраваліся. А пасля Ала адвезла дачку да бацькоў ва ўкраінскі горад Роўна.

**— У Антона Кушніра таксама былі праблемы напярэдадні Алімпіяды — толькі матэрыяльнага кшталту...**

— З-за траўмы Антон не выканаў нарматывы, якія былі неабходны, каб атрымліваць павышаную стыпендыю. Пачаў будаваць кватэру, патрабаваліся вялікія грошы, якіх не стала. У гэтай сітуацыі, натуральна, вельмі дапамог памочнік прэзідэнта па пытаннях фізкультуры і спорту Максім Рыжанкоў. Быў арганізаваны савет, на якім прынялі неардынарнае рашэнне, што Антон з улікам мінулых заслуг усё ж такі будзе атрымліваць стыпендыю. Зрабілі выключэнне.

**— І мэта апраўдала сродкі...**

— На сто працэнтаў. Гэта Кушніра збалансавала, ён стаў спакойна трэніравацца. І яго зразумець можна. Калі галава баліць аб тым, чым пакарміць сям'ю, то не да трэніровак.

**— Кажуць, што алімпійскі чэмпіён мінулых Гульняў Аляксей Грышын пасля таго, як не патрапіў у фінал спаборніцтваў у Сочы, так перажываў, што нават з'ехаў у Мінск раней часу.**

— Крыўдна яму было, але Лёша — моцны чалавек. Ён, безумоўна, разумеў, што згубіў свой шанц, але ж гэта спорт. Думаю, недзе перастараўся. Як у нас кажуць: згубіў пільнасць.

**— Наколькі сёння фрыстайл суб'ектыўны від спорту?**

— Скажам так, часам суддзі вырашаюць многае. Але ў той сітуацыі, у якой аказаліся на Алімпіядзе нашы Ала Цупер і Антон Кушнір, у суддзяў не было іншага выбару, як паставіць іх на першыя месцы. Ала саперніц сваім скачком проста паставіла ў тупік, а Антон выдаў такі "супернумар", што адэкватнага адказу з боку кітайцаў проста не знайшлося.

**— Калі шчыра: верылі, што вашы падначаленыя здолеюць заваяваць на Алімпіядзе два залатыя медалі?**

— Марыў! Але і падумаць не мог, што ўсё так складзецца. І пасля двух медалёў у мяне проста не заставалася эмоцый. Дзень я ляжаў і нікуды не выходзіў. Пасля ўжо выбраўся паглядзець спаборніцтвы, горад...

**— Як вам самі Гульні, у адрас якіх прагучала вельмі шмат крытыкі?**

— Мне спадабалася. Я быў на тэставых спаборніцтвах у Сочы за год да Алімпіяды і ніколі не мог падумаць, што за год арганізатарам удасца прывесці ўсё ў парадак. Сочы мне запомніцца надоўга...

**— Мікалай Іванавіч, ці складана несці цяжар славы?**

— Ой, складана! — ізноў смяецца мой суразмоўца. — Вось з вамі пагутарыў — і на новую сустрэчу...

**Гутарыў Алесь СІВЫ.**

ХОББИ

# Кукла, которая ценится как золотое колье

Идея провести соревнование среди людей, которые увлекаются созданием кукол, сначала появилась у владельцев столичного магазина товаров для хобби и творчества "Орега". **Юлия Юдчиц**, сама выпускница "Мастерской авторских кукол", решила, что пришло время показать, на что способны начинающие кукольники. Конкурс объявили еще год назад, обозначив главной темой Рождество. Организаторы справедливо рассчитали, что фантазии на тему зимней сказки станут благодатной почвой для возникновения новых необыкновенных кукол.

*"Мы были удивлены, когда увидели, сколько мастеров желают принять участие в конкурсе,* — призналась "Народной Воле" Юлия. — *Оказалось, что созданием авторских кукол увлекаются многие белорусы. Некоторые работают целыми семьями!*

*К сожалению, многие произведения нам пришлось отсеять из-за их качества, а также из-за того, что выставочный зал Музея современного изобразительного искусства невелик. В итоге остались 22 работы, среди которых три куклы-победительницы"*.





Обычно за участие в известных выставках и ярмарках по всему миру мастеру приходится выкладывать кругленькую сумму. Первый отечественный форум кукольников пусть и не очень масштабный, зато вышел домашним и душевным и, что немаловажно, бесплатным. Для начинающих один этот факт уже был большим подарком.

*"Лучшей куклой мы признали "Единорога",* — отмечает одна из судей конкурса, руководитель "Мастерской авторских кукол" **Ирина Ражко**. — *Может быть, это подсознательное влияние Года лошади, но скорее это дань таланту **Анны Чепурной-Олейник**. Эта молодая художница использует образы животных в живописи. Оттуда они пришли в ее кукольные работы. В итоге получилось очень необычно и интересно. Куклы человечные, полны романтики и гармонии. Невозможно было не дать первый приз влюбленной лошади*".

Как и другие работы, которые можно увидеть в Музее современного изобразительного искусства, "Единорог" — почти ювелирное изделие. Цена на подобные куклы иногда может быть сопоставимой со стоимостью дорогого украшения.

"*Работа с куклой сложная, кропотливая*, — отмечает Ирина. — *Приходится иметь дело и с вышивкой бисером, и со стразами, и с камнями, и даже с золотом. От того, насколько художник сможет усложнить свое базовое творение, зависит цена куклы. Процесс всегда длительный и дорогостоящий, поскольку кукла делается в единственном экземпляре, что автоматически повышает цену*".

Обладательница Гран-при первого национального конкурса "Волшебная кукла" Анна Чепурная-Олейник отмечает, что просто так расстаться со своими творениями она не сможет.

*"Мне будет приятно, если кто-то захочет украсить свой дом моими работами,* — призналась Анна. — *Но, наверное, я не смогу отдать куклу в первые попавшиеся руки. Мне нужно будет пообщаться с человеком, узнать его..."*.

Кстати, выставка кукол продлится до 29 марта.

**Мария МАЛЕВИЧ.**
**Фото Сергея САЦЮКА.**

## Бліскучая перамога на «Гран-пры Сальвадора»

*Другую перамогу ў сезоне атрымала беларуска Алена Амялюсік, якая выступае за каманду "Астана Бі пінк".*

Пасля перамогі на этапе "Вуэльта Коста-Рыка" лепшая беларуская шасейніца ў бліскучым стылі першынствавала на шматдзёнцы "Гран-пры Сальвадора". На фінішы Алена апярэдзіла дзвюх вельмі моцных саперніц — двухразовую медалістку Гульняў у Лондане расіянку Вольгу Забялінскую і чэмпіёнку "Джыра д'Італія-2013" амерыканку Мару Эбат, паведамляе pressball.by.

Дарэчы, менавіта Забялінская і Эбат выйгралі дзве апошнія аднадзённыя гонкі ў рамках веласіпедных дзён у Сальвадоры.

Сёння ж стартуе апошняя частка веласіпеднага свята ў Сальвадоры — шасцідзённая гонка "Вуэльта Сальвадор".

## *Георгій КАНДРАЦЬЕЎ:* «Гэта горшы матч пад маім кіраўніцтвам...»

*Зборная Беларусі па футболе адкрыла сезон таварыскім матчам з камандай Балгарыі.*

Галоўны трэнер беларускай зборнай Георгій Кандрацьеў пасля паражэння ў гасцях ад балгар (1:2) канстатаваў, што гульня ў яго падапечных не атрымалася.

*"Гэта горшы матч зборнай пад маім кіраўніцтвам,* — сказаў Кандрацьеў. — *Футбалісты былі чамусьці не гатовы, першыя 25 хвілін правялі жудасна. Вымушаны прызнаць: каманда Балгарыі перамагла заслужана. Гаспадары забілі, маглі перавагу падвоіць. Да чаго даходзіла: два цэнтральныя абаронцы прайграюць барацьбу аднаму форварду. Ён іх дваіх "затаптаў" і прабіў у перакладзіну. Прычыну бачу ў тым, што ўнутрана кожны не змог сябе настроіць на сур'ёзную барацьбу з першых хвілін".*

ВАС ЦІКАВІЦЬ...

## Калі будзе «Маторшоу»?

*У мінулым годзе атрымаў вялікае задавальненне ад наведвання аўтамабільнай выставы "Маторшоу". Калі не памыляюся, яна праходзіла прыкладна ў маі. Можа, і ў гэтым годзе аўтасалон адбудзецца? Калі так, то, калі ласка, распавядзіце, дзе і калі ён плануецца?*

**Іван ПЫЛ, Мінскі раён.**

На жаль, Міжнародны аўтасалон "Маторшоу" ў гэтым годзе праводзіцца не будзе. Пра гэта аб'явіў **Дзмітрый Ярота,** кіраўнік ТАА "Рэмарк", якое традыцыйна выступае арганізатарам "Маторшоу".

*"Прынята канчатковае рашэнне,* — растлумачыў ён. — *Збольшага гэта звязана з тым, што занята асноўная выставачная пляцоўка — "Мінск-Арэна", дзе пройдзе чэмпіянат свету па хакеі".*

Як адзначыў Ярота, яшчэ ў мінулым годзе разам з членамі Беларускай аўтамабільнай асацыяцыі планавалася, што наступная выстава "Маторшоу" пройдзе толькі праз два гады.

### ТЫМ ЧАСАМ
## Гонкі аўтарарытэтаў

Грамадскае аб'яднанне калекцыянераў і рэстаўратараў рэтрааўтамабіляў "Машына часу" ў чэрвені плануе правесці ралі старадаўніх аўто. Да ўдзелу ў спаборніцтвах дапускаюцца ўладальнікі аўтарарытэтаў, выпушчаных да 1970 года, у тэхнічна спраўным стане, якія прайшлі тэхнічны агляд, допушчаны да эксплуатацыі на дарогах і маюць прывабны знешні выгляд.

**Аліна ВЕТРАВА.**

ВЕРНІСАЖ

# Бяздомны ў палацы

*З лёгкай рукі журналістаў 64-гадовы прынцыпова бяздомны мастак Валерый Ляшкевіч з Гомеля працягвае шэсце па музеях і палацах.*



Першая выстава яго карцін адбылася ў Нацыянальным мастацкім музеі на пачатку года — праўда, у музейнай зале арт-кафэ, не ў асноўных выставачных залах Нацыянальнага мастацкага музея. А літаральна пару дзён таму, напярэдадні свята, адкрылася другая "персаналка" Ляшкевіча. І таксама не дзе-небудзь у андэграўндным клубе, а ў лепшым гомельскім музейным ансамблі — палацы Румянцавых—Паскевічаў!

Вядома, пасля выставы ў Мінску, пасля шматлікіх публікацый у прэсе, жадаючых набыць работы Ляшкевіча павялічылася ў шмат разоў. Хоць і раней публіка не абыходзіла яго ўвагай, бо мастак сапраўды самабытны. Але цяпер, калі імя яго на слыху, спрацоўвае яшчэ і эфект экзотыкі: чалавек, загарнуўшыся ў цэлафан, начуе на вуліцы, свае алоўкавыя карціны захоўвае ў камерах на вакзале, а днём — зімой і летам — працуе на парапеце ў гомельскім парку ці ля сцен універмага.

Адна карціна Ляшкевіча каштуе прыблізна 20—30 тысяч рублёў, але пакупнікі, як правіла, плацяць у разы больш.

**Алена МАЛОЧКА.**

Народная Воля
http://www.nv-online.info
11 САКАВІКА 2014 г.

ПРЕЗЕНТАЦИЯ

# Календарь чемпионата Беларуси по футболу

*29 марта стартует чемпионат Беларуси по футболу. Предлагаем вашему вниманию расписание матчей национального первенства, Суперкубка, Кубка Беларуси, еврокубков и матчей сборных.*

## СБОРНЫЕ

**4 марта, вторник**
Отборочный матч молодежного (U-21) чемпионата Европы Франция—Беларусь
**5 марта, среда**
Товарищеский матч Болгария—Беларусь

## СУПЕРКУБОК

**15 марта, суббота**
БАТЭ (Борисов)—Минск

## КУБОК-2013/2014

**1/4 финала**
**22 марта, суббота**
Шахтер (Солигорск)—Белшина (Бобруйск)
Неман (Гродно)—БАТЭ
Минск—Городея
Гомель—Днепр (Могилев)

## ТУР 1

**29 марта, суббота**
Нафтан (Новополоцк)—Торпедо-БелАЗ (Жодино)
Минск—Динамо (Брест)
Шахтер—БАТЭ
**30 марта, воскресенье**
Неман—Слуцк
Днепр—Динамо (Минск)
Гомель—Белшина

## ТУР 2

**5 апреля, суббота**
БАТЭ—Минск
Слуцк—Шахтер
Нафтан—Днепр
**6 апреля, воскресенье**
Динамо Мн—Неман
Торпедо-БелАЗ—Белшина
Динамо Бр—Гомель

## ТУР 3

**11 апреля, пятница**
Матчи с участием полуфиналистов Кубка Беларуси
**12 апреля, суббота**
Шахтер—Динамо Мн
Белшина—Динамо Бр
Днепр—Торпедо-БелАЗ
**13 апреля, воскресенье**
Минск—Слуцк
Неман—Нафтан
Гомель—БАТЭ

## КУБОК-2013/2014

**15 апреля, вторник**
Матчи 1/2 финала

## ТУР 4

**18 апреля, пятница**
Торпедо-БелАЗ—Динамо Бр
**19 апреля, суббота**
БАТЭ—Белшина
Слуцк—Гомель
Динамо Мн—Минск
Нафтан—Шахтер
Днепр—Неман

## ТУР 5

**25 апреля, пятница**
Матчи с участием финалистов Кубка Беларуси
**26 апреля, суббота**
Неман—Торпедо-БелАЗ
Динамо Бр—БАТЭ
Гомель—Динамо Мн
**27 апреля, воскресенье**
Шахтер—Днепр
Белшина—Слуцк
Минск—Нафтан

## ТУР 6

**29 апреля, вторник**
Матчи с участием финалистов Кубка Беларуси

## КУБОК-2013/2014

**3 мая, суббота**
Финальный матч

## ТУР 6

**4 мая, воскресенье**
Слуцк—Динамо Бр
Динамо Мн—Белшина
Нафтан—Гомель
Днепр—Минск
Неман—Шахтер
Торпедо-БелАЗ—БАТЭ

## ТУР 7

**10 мая, суббота**
Гомель—Днепр
Динамо Бр—Динамо Мн
БАТЭ—Слуцк
**11 мая, воскресенье**
Белшина—Нафтан
Шахтер—Торпедо-БелАЗ
Неман—Минск

## ТУР 8

**15 мая, четверг**
БАТЭ—Динамо Мн
Неман—Гомель
Шахтер—Минск
**16 мая, пятница**
Днепр—Белшина
Нафтан—Динамо Бр
Торпедо-БелАЗ—Слуцк

## СБОРНЫЕ

**18 мая, воскресенье**
Товарищеский матч Иран—Беларусь
**22 мая, четверг**
Товарищеский матч Национальной сборной Беларуси

## ТУР 9

**25 мая, воскресенье**
Динамо Бр—Днепр
Белшина—Неман
Слуцк—Динамо Мн
**26 мая, понедельник**
БАТЭ—Нафтан
Гомель—Шахтер
Минск—Торпедо-БелАЗ

## ТУР 10

**31 мая, суббота**
Торпедо-БелАЗ—Динамо Мн
Минск—Гомель
Нафтан—Слуцк
**1 июня, воскресенье**
Шахтер—Белшина
Днепр—БАТЭ
Неман—Динамо Бр

## ТУР 11

**6 июня, пятница**
Гомель—Торпедо-БелАЗ
Белшина—Минск
Слуцк—Днепр
**7 июня, суббота**
Динамо Мн—Нафтан
Динамо Бр—Шахтер
БАТЭ—Неман

## ТУР 12

**11 июня, среда**
Торпедо-БелАЗ—Нафтан
Динамо Мн—Днепр
Слуцк—Неман
Белшина—Гомель
**12 июня, четверг**
БАТЭ—Шахтер
Динамо Бр—Минск

## ТУР 13

**15 июня, воскресенье**
Белшина—Торпедо-БелАЗ
Днепр—Нафтан
Неман —- Динамо Мн
**16 июня, понедельник**
Гомель—Динамо Бр
Минск—БАТЭ
Шахтер—Слуцк

## ТУР 14

**21 июня, суббота**
Торпедо-БелАЗ—Днепр
Нафтан—Неман
**22 июня, воскресенье**
Динамо Мн—Шахтер
Слуцк—Минск
БАТЭ—Гомель
Динамо Бр—Белшина

## ТУР 15

**28 июня, суббота**
Динамо Бр—Торпедо-БелАЗ
Неман—Днепр
Шахтер—Нафтан
**29 июня, воскресенье**
Белшина—БАТЭ
Минск—Динамо Мн
**30 июня, понедельник**
Гомель—Слуцк

## ТУР 16

**4 июля, пятница**
Днепр—Шахтер
**5 июля, суббота**
БАТЭ—Динамо Бр
Слуцк—Белшина
**6 июля, воскресенье**
Динамо Мн—Гомель
Торпедо-БелАЗ—Неман
Нафтан—Минск

## ТУР 17

**11 июля, пятница**
БАТЭ—Торпедо-БелАЗ
**12 июля, суббота**
Белшина—Динамо Мн
Шахтер—Неман
Минск—Днепр
**13 июля, воскресенье**
Динамо Бр—Слуцк
Гомель—Нафтан

## ЕВРОКУБКИ

**15—16 июля, вторник-среда**
Лига чемпионов. Первые матчи 2-го квалификационного раунда
**17 июля, четверг**
Лига Европы. Первые матчи 2-го квалификационного раунда

## ТУР 18

**19 июля, суббота**
Нафтан—Белшина
Слуцк—БАТЭ
**20 июля, воскресенье**
Днепр—Гомель
Торпедо-БелАЗ—Шахтер
Динамо Мн—Динамо Бр



Минск—Неман

## ЕВРОКУБКИ

**22—23 июля, вторник-среда**
Лига чемпионов. Повторные матчи 2-го квалификационного раунда
**24 июля, четверг**
Лига Европы. Повторные матчи 2-го квалификационного раунда

## КУБОК-2014/2015

**26 июля, суббота**
Матчи 1/16 финала

## ЕВРОКУБКИ

**29—30 июля, вторник-среда**
Лига чемпионов. Первые матчи 3-го квалификационного раунда
**31 июля, четверг**
Лига Европы. Первые матчи 3-го квалификационного раунда

## ТУР 19

**2 августа, суббота**
Динамо Бр—Нафтан
Белшина—Днепр
Слуцк—Торпедо-БелАЗ
**3 августа, воскресенье**
Динамо Мн—БАТЭ
Гомель—Неман
Минск—Шахтер

## ЕВРОКУБКИ

**5—6 августа, вторник-среда**
Лига чемпионов. Повторные матчи 3-го квалификационного раунда
**7 августа, четверг**
Лига Европы. Повторные матчи 3-го квалификационного раунда

## ТУР 20

**9 августа, суббота**
Днепр—Динамо Бр
Неман—Белшина
Торпедо-БелАЗ—Минск
**10 августа, воскресенье**
Нафтан—БАТЭ
Динамо Мн—Слуцк
Шахтер—Гомель

## ТУР 21

**16 августа, суббота**
БАТЭ—Днепр
Динамо Мн—Торпедо-БелАЗ
Белшина—Шахтер
**17 августа, воскресенье**
Слуцк—Нафтан
Динамо Бр—Неман
Гомель—Минск

## ЕВРОКУБКИ

**19—20 августа, вторник-среда**
Лига чемпионов. Первые матчи раунда плей-офф
**21 августа, четверг**
Лига Европы. Первые матчи раунда плей-офф

## КУБОК-2014/2015

**23—24 августа, суббота-воскресенье**
Матчи 1/8 финала

## ЕВРОКУБКИ

**26—27 августа, вторник-среда**
Лига чемпионов. Повторные матчи раунда плей-офф
**28 августа, четверг**
Лига Европы. Повторные матчи раунда плей-офф

## ТУР 22

**31 августа, воскресенье**
Торпедо-БелАЗ—Гомель
Минск—Белшина
Шахтер—Динамо Бр
Неман—БАТЭ
Днепр—Слуцк
Нафтан—Динамо Мн

## СБОРНЫЕ

**8 сентября, понедельник**
Отборочный матч чемпионата Европы Люксембург—Беларусь
**9 сентября, вторник**
Отборочный матч молодежного (U-21) чемпионата Европы Армения—Беларусь

## ТУР 23

**13—15 сентября, суббота-понедельник**
А1—А6
А2—А5
А3—А4
Б7—Б12
Б8—Б11
Б9—Б10

## ЕВРОКУБКИ

**16—17 сентября, вторник-среда**
Лига чемпионов. Первый тур групповых турниров
**18 сентября, четверг**
Лига Европы. Первый тур групповых турниров

## ТУР 24

**20—21 сентября, суббота-воскресенье**
А6—А4
А5—А3
А1—А2
Б12—Б10
Б11—Б9
Б7—Б8

## ТУР 25

**27—28 сентября, суббота-воскресенье**
А2—А6
А3—А1
А4—А5
Б8—Б12
Б9—Б7
Б10—Б11

## ЕВРОКУБКИ

**30 сентября — 1 октября, вторник-среда**
Лига чемпионов. Второй тур групповых турниров
**2 октября, четверг**
Лига Европы. Второй тур групповых турниров

## ТУР 26

**4—5 октября, суббота-воскресенье**
А6—А5
А1—А4
А2—А3
Б12—Б11
Б7—Б10
Б8—Б9

## СБОРНЫЕ

**9 октября, четверг**
Отборочный матч чемпионата Европы Беларусь—Украина
**12 октября, воскресенье**
Отборочный матч чемпионата Европы Беларусь—Словакия

## ТУР 27

**18—20 октября, суббота-понедельник**
А3—А6
А4—А2
А5—А1
Б9—Б12
Б10—Б8
Б11—Б7

## ЕВРОКУБКИ

**21—22 октября, вторник-среда**
Лига чемпионов. Третий тур групповых турниров
**23 октября, четверг**
Лига Европы. Третий тур групповых турниров

## ТУР 28

**25—27 октября, суббота-понедельник**
А6—А1
А5—А2
А4—А3
Б12—Б7
Б11—Б8
Б10—Б9

## ТУР 29

**1—3 ноября, суббота-понедельник**
А4—А6
А3—А5
А2—А1
Б10—Б12
Б9—Б11
Б8—Б7

## ЕВРОКУБКИ

**4—5 ноября, вторник-среда**
Лига чемпионов. Четвертый тур групповых турниров
**6 ноября, четверг**
Лига Европы. Четвертый тур групповых турниров

## ТУР 30

**7—9 ноября, пятница-воскресенье**
А6—А2
А1—А3
А5—А4
Б12—Б8
Б7—Б9
Б11—Б10

## СБОРНЫЕ

**15 ноября, суббота**
Отборочный матч чемпионата Европы Испания—Беларусь

## ТУР 31

**23 ноября, воскресенье**
А5—А6
А4—А1
А3—А2
Б11—Б12
Б10—Б7
Б9 —- Б8

## ЕВРОКУБКИ

**25—26 ноября, вторник-среда**
Лига чемпионов. Пятый тур групповых турниров
**27 ноября, четверг**
Лига Европы. Пятый тур групповых турниров

## ТУР 32

**29—30 ноября, суббота-воскресенье**
А6—А3
А2—А4
А1—А5
Б12—Б9
Б8—Б10
Б7—Б11

## ПЕРЕХОДНЫЕ МАТЧИ

**3 декабря, среда**
Первый поединок
**6 декабря, суббота**
Повторный поединок

## ЕВРОКУБКИ

**9—10 декабря, вторник-среда**
Лига чемпионов. Шестой тур групповых турниров
**11 декабря, четверг**
Лига Европы. Шестой тур групповых турниров

**ПРИМЕЧАНИЯ.** *1. Поскольку в этом году чемпионат страны будет сыгран по схеме с делением на шестерки, расписание встреч второго этапа обезличено. Условные обозначения на этом отрезке: А1, А2, А3, А4, А5 и А6—команды первого секстета, пронумерованные в соответствии с занятыми местами; Б1, Б2, Б3, Б4, Б5 и Б6—команды второго секстета, пронумерованные в соответствии с занятыми местами. 2. Резервные дни календаря—13 августа, 23—24 августа, 24 сентября, 15 октября, 29 октября, 19 ноября.*

## Ці дагоніць Домрачава сваіх саперніц?

*У мінулую нядзелю беларуская біятланістка Дар'я Домрачава выйграла гонку з масавым стартам, якая прайшла ў славенскай Паклюке ў заключны дзень сёмага этапа Кубка свету.*

Дыстанцыю 12,5 км спартсменка пераадолела за 36 хвілін 16,4 секунды, дапусціўшы два промахі пры стральбе (0+1+0+1).

На другім месцы фінка Кайса Мякярайнен, на трэцім — Вольга Зайцава з Расіі.

Надзея Скардзіна фінішавала сёмай, Людміла Калінчык — дзясятай, паведамляе БелаПАН.

У агульным заліку Кубка свету лідзіруюць Мякярайнен (601 ачко), нарвежка Тора Бергер (587) і Домрачава (571). Скардзіна на 15-м месцы (322), Калінчык — на 37-м (149). І тут пытанне: ці здолее Домрачава да трох залатых алімпійскіх медалёў у гэтам сезоне дадаць яшчэ і перамогу ў агульным заліку? Засталося ўсяго два этапы. Восьмы этап Кубка свету пройдзе 13—16 сакавіка ў Канціялахці (Фінляндыя).

## Васіль Шапцябой: «Разлічваў на золата...»

*Першы медаль на Паралімпіядзе, якая зараз праходзіць у Сочы, для Беларусі заваяваў біятланіст Васіль Шапцябой.*

34-гадовы Васіль Шапцябой заняў трэцяе месца ў біятлоннай гонцы на 7,5 км для спартсменаў з парушэннем зроку (са слабым зрокам і татальна сляпыя).

*"Я разлічваў на залаты медаль, хоць выйграць гонку і не атрымалася,* — распавёў журналістам беларускі спартсмен. — *Прамахнуўся на стральбе, згубленага часу якраз і не хапіла, каб выйграць. А ў астатнім усё склалася нармальна, хоць на некаторых участках траса нагадвала кашу. Дарэчы, гэтая дыстанцыя — адна з самых маіх любімых і амаль заўсёды — медальная".*



ШАШКІ

## «Крыўя-2013»



Пад такой назвай праведзены Міжнародны конкурс па шашачнай кампазіцыі-64. У мінулы раз мы паведамілі, што ў ім галоўны прыз у катэгорыі А (раздзел поліпраблем) заваяваў майстар спорту СССР М.Грушэўскі (Мінск). У гэтым прэстыжным спаборніцтве меў добры вынік яшчэ адзін наш зямляк — Пётр Шклудаў. Міжнародны майстар з Наваполацка перамог у катэгорыі В (задачныя праблемы), а таксама атрымаў у ёй другі прыз і ў катэгорыі А заняў 3-е і 4-е залікова месцы для прысваення спартыўных званняў.

Пазнаёмцеся з лепшымі творамі П.Шклудава:

1 (82,5 ачка па змесце). **Белыя**: b4, b6, c5, c7, d4, d6, e5, e7, f6, g5 (10).

**Чорныя**: a5, b2, c3, d2, d8, e3, f2, f4, g3, h2, h6, h8 (12).

Выйгрыш. Свае рашэнні вы зможаце праверыць самі ў наступным выпуску рубрыкі.

2 (80,5 ачка). **Белыя**: a1, b6, c1, c7, d6, e5, e7, f4, f6, g5, g7 (11). **Чорныя**: a3, a5, b2, b4, c3, d2, d8, e3, g3, h2, h8 (11).

Змест: h6, f2, c5, d8, h4, fg3, f6, h6, b2 (g5) c1+.

3 (79,5 ачка). **Белыя**: b6, d4, d6, e5, e7, f6, h2, h4 (8). **Чорныя**: a7, b2, b4, c5, d2, e3, f2, f4, g3 (9).

F8, f6! (d6A) c1 (ac5) f4, g1!, f8+. A(ac5) b6, f4!, c7, fag1+.

4 (73,5 ачка). **Белыя**: b6, c5, c7, d6, e5, e7, g3 (7). **Чорныя**: a5, b2, c3, d2, f4, f8, g5, g7, h2 (9).

Cd8, b8 (f4:b4A) dc7 (f4) h2, c5 (b2 BC) cg1 (a1DEE1)f4, h8+. A(f8:b4) h4, c5, e1 (b2) e3, a1+. B(gf6) d4+. C(d2) e3, h8+. D(c1) e3, h8+. E(h4) g3, a1+. E1(f6) f4, a1+.

## Сусветныя гульні

Яны прайшлі ў Кітаі па шасці інтэлектуальных спартыўных дысцыплінах. Па шашках-100 інтарэсы нашай краіны абаранялі сёстры Федаровіч з Мінска і Андрэй Толчыкаў (Гомель). Вольга Федаровіч заваявала сярэбраны медаль па хуткіх шашках.

## Павучальная камбінацыя

Яе правёў у Санкт-Пецярбургу на чэмпіянаце свету гросмайстар з Гомеля Яўген Кандрачэнка. Гэтую камбінацыю варта ўзяць на заметку:

**Белыя** (Я.Кандрачэнка): b4, c1, c3, e1, e3, h2, h4, h6 (8). **Чорныя** (S.Mwaza): a3, a5, c5, c7, d6, e5, e7, f8 (8).

1. ed4 2. hg3 3. gf4x/3.cd4 4. gf4x.

Першынство праводзілася па сучаснай версіі рускіх шашак з лёсаваннем дэбютаў. У ім сярод прадстаўнікоў Беларусі найбольш паспяхова выступіў Ігар Міхальчанка: міжнародны майстар з Ваўкавыска стаў чэмпіёнам, апярэдзіўшы ў бліцтурніры 15 міжнародных гросмайстраў (!).

## Праверце свае рашэнні

**"Сітуацыі, поўныя цікавасці"**: **№1** (Д.Яфімовіч — Я.Ханукаеў) — 1... ab2 2. c:a3 fg5 3. h:f4 de5 4. d:f6 e:c1x і **№3** (С.Місюта — А.Чэпа) — 5. ab4=.

**Мікалай ГЛАДКІ.**

**Адрас рэдакцыі:
220030, Мінск,
вул.Энгельса, 34а.
Прыёмная:
тэл. (017) 3286871.
Тэл./факс
рэкламнага
аддзела: (017)
3286904, 3286906,
(029) 7753871
nvonlineinfo@gmail.com
http://www.nv-online.info**

ISSN 2071-9647
9 772071 964000 14019

**Падпісныя індэксы: 63222, 632222**

**Заснавальнік і галоўны рэдактар Іосіф Паўлавіч СЯРЭДЗІЧ**

**У сувязі з адсутнасцю магчымасці рэдакцыя матэрыялы не рэцэнзуе і не вяртае, права ўступлення ў перапіску пакідае за сабой. За інфармацыю, размешчаную ў рэкламных аб'явах, рэдакцыя не адказвае. Могуць друкавацца матэрыялы, у якіх пазіцыя аўтараў не падзяляецца газетай. Пасведчанне аб дзяржаўнай рэгістрацыі сродку масавай інфармацыі №947 ад 6 студзеня 2010 г. выдадзена Міністэрствам інфармацыі Рэспублікі Беларусь (пасведчанне аб дзяржаўнай рэгістрацыі №224 ад 6 сакавіка 2000 г.). Надрукавана ў друкарні дзяржаўнага прадпрыемства «Выдавецтва «Беларускі Дом друку». ЛП №02330/0494179 ад 03.04.2009. Мінск, пр. Незалежнасці, 79. Падпісана ў друк 10.03.2014 у 17.00. Аб'ём 4 друк. аркушы. Тыраж 27030 экз. Заказ №988.**